

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 ЛІСТАПАДА 2002 г. № 43—44/4177—4178 КОШТ 328 РУБ.

**У люстэрку расійскай рэчаіснасці** 2



**Незапатрабаванасць кнігі — духоўнае спусташэнне грамадства**
*Артыкул Міколы МЯТЛІЦКАГА* 3



*Лірыка* Адама **ГЛОБУСА** 8





# 120 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

Тамара КАЛАМІЕЦ

## ЯКУБ КОЛАС

*Як жытні колас на сваёй зямлі —*
*На пясчаным, скупым падзоле —*
*Ён падымаўся да людскае долі,*
*Каб песні жальбы ў цемры не жылі.*
*На ростанях адбіўся новы след,*
*Зямлі абрысы азарылі ранне.*
*Паўсталі дні, і абнавіўся свет*
*З няволяю, са здзекам у змаганні.*

*Як жытні колас на тугіх вятрах,*
*Ён піў праменні сонечнай свабоды.*
*У глыбіні карэнне сплёў з народам,*
*Ірваўся ў неба песняю, як птах.*
*Калі ж ударыў люты град вайны,*
*Як шчыт, супроць яе узняў ён слова.*
*І спаленыя нівы ў тыя дні*
*Уваскрашалі рунь яго любові.*

*Як жытні колас беларускіх ніў,*
*Паэт пакінуў плодныя зярняты*
*І ростам іх — азёрны край заняты —*
*Ад халадоў пяшчотай атуліў.*
*І мы — з узгоркаў, стэпаў каласкі —*
*Паклонімся палеткам Беларусі*
*За спеў яе, бяссмертны, трапяткі,*
*За хлеб і соль на памятным абрусе.*

**Пераклад з украінскай Юрася СВІРКІ**

**Матэрыялы прысвечаныя юбілею Песняра чытайце на стар. 4—7, 12—13, 15**

## КОЛА ДЗЁН

**Усе жыхары нашай краіны з трывогай і болем сачылі і сочаць за развіццём падзей, што звязаны з захопам заложнікаў у Маскве, сярод якіх былі і беларусы. Тэрарыстычны акт чарговы раз з усёй відавочнасцю паказаў неабходнасць кансалідацыі ўсяго сусветнага супольніцтва ў барацьбе з любымі праявамі тэрарызму. І хоць заложнікі былі вызвалены, а тэрарысты абясшкоджаны, на жаль, не абышлося без ахвяр. Загінула 119 чалавек, выратавана больш чым 700.**

### КАНГРЭС ТЫДНЯ

IV Сусветны кангрэс рускай прэсы, які праходзіць у Берліне, пачаўся з адкрыцця выстаўкі "Беларусь сёння". На ёй прадстаўлены шырокі спектр беларускіх перыядычных дзяржаўных і недзяржаўных выданняў, а таксама фотаэкспазіцыя "Беларусь сёння", падрыхтаваная журналістамі Беларускага тэлеграфнага агенцтва і газеты "Звязда". Выстаўку адкрыў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Уладзімір Дражын.

### АДКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

У малдаўскім горадзе Грыгарыопалі пачала дзейнічаць беларуская абшчына, якая была створана пры садзейнічанні нашага пасольства ў Кішынёве. 26 верасня адбылося першае пасяджэнне і ўрачыстае адкрыццё офіса абшчыны. Падчас гэтай урачыстасці прадстаўнік пасольства перадаў падручнікі для арганізацыі работы Нядзельнай школы па вывучэнні беларускай мовы і гісторыі Беларусі.

### УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

Галоўны рэдактар газеты "Звязда" Уладзімір Наркевіч стаў лаўрэатам прэміі Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі за трэці квартал гэтага года. Рашэнне прынята на пасяджэнні Камісіі па інфармацыйнай палітыцы і ўзаемадзеянні з грамадскімі аб'яднаннямі Парламенцкага сходу. Рэдактар "Звязды" ўдастоены гэтай узнагароды "За ажыццяўленне паслядоўнай і прынцыповай рэдакцыйнай палітыкі па аб'ектыўным асвятленні пытанняў саюзнага будаўніцтва". Шчыра віншуем нашага калегу з узнагародай і з 50-годдзем!

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

У Міністэрстве эканомікі прапрацоўваецца пытанне аб павышэнні са снежня 2003 года памеру тарыфнай стаўкі першага разраду работнікаў бюджэтнай сферы. Гэта плануецца зрабіць з улікам паказчыкаў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на гэты год. На сённяшні дзень тарыфная стаўка першага разраду складае 23200 рублёў.

### СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, за студзень—верасень гэтага года насельніцтва Беларусі скарацілася на 37,9 тысячы. Па стане на 1 кастрычніка на тэрыторыі нашай краіны пражывала 9 млн. 913 тыс. чалавек. На жаль, за дзевяць месяцаў года ў нас нарадзілася 66695, а памерла — 108324 чалавекі. На жаль...

### ПЕРАПІС ТЫДНЯ

Дзяржкамітэт Расіі падвёў першыя вынікі Усерасійскага перапісу. Згодна з яго вынікамі, насельніцтва Расіі налічвае 143,3 мільёна чалавек. Аўтаматызаваная апрацоўка дадзеных перапісу пачнецца ў 2003 годзе. Чакаецца, што апрацоўка зойме каля года.

### АЦЭНКА ТЫДНЯ

Гомельскаму Палацу Румянцавых-Паскевічаў прысвоена вышэйшая нацыянальная катэгорыя. Такім чынам, гэты палацава-паркавы комплекс заняў лідзіруючае месца ў Дзяржаўным пераліку гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі. І цяпер не выключана, што гэтаму комплексу, як Мірскаму замку, будзе аказана падтрымка з боку ЮНЕСКА. Надрэнна было б...

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

На сустрэчы з журналістамі начальнік аддзела запаведнай справы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Андрэй Галдзянкоў заявіў, што цяпер у нашай краіне няма відаў жывёл і птушак, якія б знаходзіліся на мяжы знікнення. Больш таго, спецыялісты па ахове прыроды нават канстатуюць стабілізацыю колькасці некаторых жывёл, занесеных у Чырвоную Кнігу, напрыклад, барсука, рысі, лебедзя і чорнага бусла.

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

За 9 месяцаў гэтага года ў нашай сталіцы было затрымана 1615 бамжоў, з якіх 214 — жанчыны. Дзесяць гадоў назад у органах унутраных спраў Мінска былі зафіксаваны 594 асобы без пэўнага месца жыхарства. З усёй колькасці бамжоў прыкладна 60 чалавек складаюць асобы ва ўзросце ад 18 да 30 гадоў, каля 450 чалавек — ад 31 да 50 гадоў. У многіх з бамжоў яшчэ ёсць час пачаць жыццё з пачатку. Толькі ў гэтым годзе былі прапісаны 345 колішніх бамжоў, 102 — працаўладкаваны, 29 — змешчаны ў дамы-інтэрнаты. Словам, нашы бамжы не кінуты на выжыванне...

**ПАДЗЕІ**

# У ЛЮСТЭРКУ РАСІЙСКАЙ РЭЧАІСНАСЦІ

Кожнаму журналісту ці пісьменніку знаёма пачуццё насцярожанага чакання адзнакі сваёй працы — не чыёйсьці, збоку, адзнакі, а найперш сваёй уласнай: ці дасягнута мэта? ці не выглядае зробленае табою правінцыйным ці, таго горш, не вартым увагі? З такім пачуццём аглядалі члены беларускай дэлегацыі экспазіцыю Усерасійскай выставы "Прэса — 2003", якая праходзіла ў Маскве з 22 па 29 кастрычніка. І, трэба сказаць, адчувалі не толькі задавальненне, але і гонар. Не было нам чаго саромецца, не трэба было адводзіць пагляд, калі цікавіліся беларускім друкам наведвальнікі выставы ці нашы расійскія калегі.



Да нас, да нашай прэсы прыглядваліся, мы з цікавасцю разглядвалі прапанаванае СМІ з усіх рэгіёнаў Расіі, абмяркоўваючы і нашы прафесійныя праблемы, і тыя падзеі, на фоне якіх праходзіла выстава. Калі знаходзілі што карыснае ці цікавае, занатоўвалі, з тымі, з кім можна было гаварыць аб супрацоўніцтве, гаварылі. На жаль, не раз даводзілася прызнаваць: мала ведаюць у Расіі, у Маскве пра нашу Беларусь, — галоўным чынам, праз "крывое люстэрка" маскоўскіх тэлеканалаў. І гэта чарговы раз пераканвала: трэба спакойна, пастуова, годна ўваходзіць у расійскую інфармацыйную прастору — мы ў ёй не згубімся.

**Т. Б.**



*НА ЗДЫМКАХ: вітанне прэзідэнта Рэспублікі Беларусь удзельнікам выставы "Прэса-2003" агучвае намеснік міністра інфармацыі РБ Лілія АНАНІЧ; дырэктар УП "Мінгарсаюздрук" Ларыса ШАБЛОЎСКАЯ прапануе наведвальнікам беларускую перыёдыку.*

**Фота А. КЛЕШЧУКА**

**ВЫСТАВЫ**

# МАСТАКІ — ПЕСНЯРАМ

Выстава, прымеркаваная да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, была адкрыта ў пачатку кастрычніка ў бібліятэцы Льва Талстога. На ёй прадставілі свае графічныя творы вядомыя беларускія мастакі — Арлен Кашкурэвіч і Мікола Купава.

На працягу дзесяцігоддзяў А. Кашкурэвіч працуе над Купаліянай. За яе ўвасабленне ён атрымаў у 1972 годзе Дзяржаўную прэмію. Якую б працу ні рабіў мастак, ён заўсёды вяртаўся да творчасці Песняра.

Нагадаю кнігі з цудоўнымі ілюстрацыямі — "Тры паэмы" (1962), "Курган" (1967, адзначана Дыпломам Францыска Скарыны) і інш. У ілюстрацыях А. Кашкурэвіча адчуваецца добрае веданне матэрыялу, імкненне пранікнуць у псіхалагічную сутнасць твораў Купалы. Нацыянальны каларыт і настрой падкрэсліваюцца сімволіка-алегарычнымі заст аўкамі, канцоўкамі. Пазней, калі мастак стаў ужо вядомым майстрам са сваім адметным почыркам, ён бярэ ўдзел у афармленні сувенірнага выдання паэмы Я. Купалы "Курган" (на беларускай, рускай, украінскай мовах). За гэту працу яго ўзнагародзілі медалём Францыска Скарыны.

Мікола Купава зрабіў шэраг партрэтаў вядомых дзеячаў культуры, сярод якіх Янка Купала і Якуб Колас, а таксама выканаў серыі работ "Шляхамі Янкі Купалы", "Якуб Колас. Маладыя гады", "Родны кут Якуба Коласа". Яго ным творам уласцівая ясная кампазіцыя, лаканізм графічнай мовы, глыбіня вобразнай трактоўкі.

Абодва мастакі сваімі творамі зрабілі значны ўнёсак у мастацтва, у культуру беларускага народа. Адзначу, што беларуская графіка прызнана не толькі ў нашай краіне, а далёка за яе межамі. У гэтым немалая заслуга А. Кашкурэвіча і М. Купавы.

Наведвальнікі чытальнай залы бібліятэкі, дзе на сценах размешчаны творы мастакоў-графікаў, упершыню убачаць і эцюд "Свіран" Віктара Сташчанюка, які быў у сядзібе "Вязынка".

Выстава будзе працаваць для наведвальнікаў бібліятэкі яшчэ ўвесь лістапад, распавяла дырэктар Галіна Рыгораўна Лагуновіч. А яшчэ дадала яна, што сюды прыходзяць студэнты з універсітэта культуры, настаўнікі прыводзяць сваіх вучняў з вучэльні № 107 і № 76, а таксама сярэдніх школ Кастрычніцкага і Маскоўскага раёнаў, каб лепш засвоіць творы класікаў беларускай літаратуры і пазнаёміцца з творчасцю мастакоў. Гэта ўжо не першая мастацкая выстава ў бібліятэцы.

**Г. Ф.**

**АНОНС**

# ДЗЕСЯЦЬ НОВЫХ!

Рыхтуючыся да юбілею песняроў зямлі беларускай, калектыў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра пад кіраўніцтвам прафесара Міхаіла Фінберга задумаў святочную музычна-паэтычную імпрэзу. Жывым суквеццем уяўлялася суладдзе вершаў, песень на вершы нашых класікаў, аркестравых сугуччаў, галасоў салістаў, гарачых воплескаў публікі, аднак... Аднак высветлілася, што калі з песнямі на Купалавы вершы праблем — аніякіх, дык паэзія Якуба Коласа больш прыжылася ў іншых жанрах: рамансах, кантатна-харавых творах. Песень — па пальцах пералічыш. Ліквідаваць такі дзіўны прагал даверылі знанаму кампазітару, народнаму артысту Беларусі Эдуарду Зарыцкаму. Ён стварыў цыкл новых песень, скарыстаўшы сапраўдныя дыяменты Коласавай паэзіі.

Тыя 10 новых песень уключаныя ў юбілейную праграму разам з ужо вядомымі творамі на вершы Янкі Купалы ды Якуба Коласа, напісанымі Ю. Семяняком, Р. Пукстам, І. Паліводам, І. Лучанком, У. Мулявіным, У. Буднікам. Прэм'ера пад назвай "Песняй мой дух маладзіцца" абвешчана ў сталічным кінатэатры "Масква" і мае адбыцца ў панядзелак, 4 лістапада, а 19-й гадзіне.

**С. Б.**

# НЕЗАПАТРАБАВАНАСЦЬ КНІГІ – ДУХОЎНАЕ СПУСТАШЭННЕ ГРАМАДСТВА

Год юбілеяў волатаў беларускага Слова, народных песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа падараваў нам своеасаблівую магчымасць многае супаставіць і ўпэўніцца, наколькі фармальнай, аддаленай ад чалавечых патрэб стала сувязь літаратуры з грамадствам, што болей і болей мы, прафесійныя літаратары, выцясняемся на ўзбочыну грамадскага жыцця.

Да мінімуму звузілася поле пісьменніцкай дзейнасці: нікчэмныя тыражы кніг, а іх выхад у свет у дзяржаўных выдавецтвах стаў падобным на шчаслівы выйгрыш па латарэйным білеце – адзінкавы. Стварыліся залежы рукапісаў у выдавецкіх партфелях, чэргі на публікацыі ў літаратурна-мастацкіх часопісах расцягнуліся на гады.

У сродках масавай інфармацыі пагаворваюць ужо, што за апошнія гады беларускімі пісьменнікамі нічога не створана вартага шырокай грамадскай увагі, быццам гэта мы, самі пісьменнікі, заняпалі духам – нічым не цікавімся, думаем усяго, як зарабіць ёмкі ганарар.

Каб абвергнуць падобныя думкі, варта адзначыць, што на сённяшні дзень незапатрабаваных рукапісаў толькі ў аб'яднаным выдавецтве "Мастацкая літаратура" каля трохсот.

А ў гэты час па ўсёй рэспубліцы ў раённых друкарнях выдаецца цэлы паток аматарскай літаратуры, які і стварае ў вачах чытача ўражанне, быццам гэта і ёсць сучасная беларуская літаратура ва ўсіх яе дасягненнях.

Стварылася дужа спрыяльная атмасфера, якая на руку тым, хто ў адносінах да роднай літаратуры на першае месца паставіў абыякавасць. Яна пануе і ў самім нашым творчым саюзе: мы не здолелі зрабіць работу яго кіруючых органаў дзеяздольнай, калегіяльнай, дагрукацца з набалелым у многія дзяржаўныя кабінеты. Быццам аднадушна загадзя пагадзіліся: нам там не дапамогуць, там няма каму нас пачуць.

Што ж адбылося з айчыннай літаратурай у апошняе дзесяцігоддзе? Дакладней – што змусіла нашу кнігу саступіць у цень грамадскага жыцця, аказацца на столькі год незапатрабаванай?

Гэта перш-наперш працэсы камерцыялізацыі кнігавыдавецкай галіны, дзе многія адкрылі для сябе, што на кнізе, як на тавары, можна зарабляць немалыя грошы.

У дзяржаўных выдавецтваў аднята амаль усё, што можа даваць нейкі прыбытак, а вытворчыя ўмовы ў іх аднолькавыя з камерцыйнымі, нават горш таго. А на тое, што яны ледзьве эканамічна карабкаюцца, часцей і часцей гучаць павучанні наступнага кшталту: "Не ставьте в план белорусскоязычный мусор и будете жить хорошо..."

Святая Скарынава справа ператварылася ў адладжаную кнігаіндустрыю. Айчынным прафесійным творцам, хто ў пакутах піша новую літаратуру Беларусі, дасталіся толькі горкія клопаты і расчараванні: напішы кнігу, знайдзі спонсара, сабяры, а дакладней "выстарцуй" тыраж у кнігагандлёвай сетцы...

Ці ж не разбурае гэта крохкі пісьменніцкі талент, якому для выспявання і росту патрэбны чуйная грамадская ўвага і прыхільнасць? Няўжо не пераканаліся мы ўсе, што калі сыходзіць духоўнасць, калі грамадства выпускае з рук кнігу, разнявольваюцца хіжыя сілы і так прыкметна маладзее злачыннасць?!

Неабходна правільна разумець дзяржаўны заказ: гэта поўная дзяржаўная запатрабаванасць тыражу кнігі. Заведама зразумела, што з 50-працэнтнай датацыяй, без запатрабаванага тыражу кніга не выйдзе ў свет. Таму трэба вярнуць практыку тыражных камісій, паразумецца і збалансаваць абавязковыя тыражныя нормы для кніг дзяржаўных выдавецтваў, якія тым і адрозніваюцца ад прыватных, што яны праводзяць у жыццё дзяржаўную культурную палітыку, накіраваную на клопат пра станаўленне духоўнасці.



Некаторыя з творчых людзей, хто не хоча аніякага паяднання нашых творчых клопатаў з агульнадзяржаўнымі, сягоння палохаюць рэанімацыяй праславутых часоў татальнай дзяржаўнай увагі да ўсяго свежага, новага ў літаратуры і мастацтве. Маўляў, дзяржава, даючы грошы, запатрабуе толькі ўхвалы і згодніцкага пісання-ўслаўлення ўсіх яе паўсядзённых спраў, перасцерагаюць, што яна змусіць наша пяро падпарадкавацца не так даўно пахаванай цэнзуры.

Ніхто не паставіць на калені пісьменніцкую годнасць: ні за дротам ГУЛАГа, ні ў аблогах мінулай вайны, ні пад хмарай Чарнобыля – нідзе сумленнае Слова не скарылася скрушнаму лёсу. І сягоння, занядбанае многімі, яно годна выстаіць, узнёсшы грамадства да новых духоўных вышынь.

Прафесійны пісьменнік і адрозніваецца ад калялітаратурнага дзялка тым, што яго сумленне і талент не дазваляюць напісаць "твор", які можа абразіць годнасць яго народа.

Творца, ведаючы сапраўдную цану слову, карыстаецца ім як стваральным, а не разбуральным інструментам, ён больш як хто занепакоены лёсам народа: ніколі гуманныя пачуцці не выстынуць у яго сэрцы, не падменяцца меркантыльнай пошасцю, аб чым доказна сведчыць тое, што сягоння, існуючы амаль у галечы, беларускія прафесійныя літаратары не кінуліся ў напісанне бульварнаходкіх тварэнняў, што гэты паток прыйшоў на нашы прасторы не на беларускай мове.

Цалкам падтрымліваю тых, хто адстойвае погляд, што цяпер, у часы будаўніцтва нашай незалежнай маладой краіны, супольнае аб'яднанне беларускіх літаратараў павінна стаць эталонам высокай маральнасці, гарантам развіцця духоўнасці, рэзанатарам сацыяльна значных думак, грамадзянскіх пачуццяў – усім тым, чаму і заклікана служыць у грамадстве сумленная таленавітая кніга.

У пасланні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Парламенту пра будучы лёс творчых саюзаў заяўлена адназначна: "...возьмем пытанне аб бюджэтнай падтрымцы грамадскіх аб'яднанняў. Беларуская дзяржава яшчэ з савецкіх часоў традыцыйна аказвала фінансавую падтрымку больш як 20 грамадскім арганізацыям, уключаючы і творчыя. Справа, здавалася б, патрэбная і бясспрэчная. Але куды ішлі бюджэтныя грошы? На ўтрыманне штатных пасад, гэта значыць чыноўнікаў ад грамадскасці. А фінансавацца павінна карысная для людзей і дзяржавы работа гэтых аб'яднанняў. Для гэтага яны павінны прадстаўляць і абараняць праграму сваёй дзейнасці на год".

У святле гэтых патрабаванняў з боку дзяржавы давайце цяпер уважліва паглядзім на дзейнасць нашай арганізацыі. Гэты год, як ніякі іншы, даваў нам усе магчымасці распрацаваць і абараніць не адну праграму – гэта год юбілеяў песняроў Беларусі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка, гэта год вялікага напружання ў кнігавыдавецкай галіне, ліквідацыі выдавецтва "Юнацтва", рэарганізацыі працы літаратурна-мастацкіх выданняў.

Аднак не было ніводнай доказнай прапановы.

Сягоння, у пару духоўнага занядбання, мы пераканаліся, на жаль, наколькі чэпка без дбайнасці пра духоўнасць прарастае ў грамадскім жыцці рознае "пустазелле", чэзне і глухне стваральная творчая праца, калі святое поле культуры ўрабляецца абы-як, прыхапкам, калі клапатлівая праца на ім слаба забяспечана дзяржаўнай падтрымкай.

Па праве, здабытым нястомнай працай нашых папярэднікаў і сучаснікаў, беларуская літаратура стала гонарам нацыі. Шкада толькі, што пра гэта ў нашым грамадскім жыцці згадваецца ад выпадку да выпадку.

Удасканальваючы работу Саюза беларускіх пісьменнікаў у нялёгкіх эканамічных варунках пераходнага часу, патрэбна перш-наперш зрабіць усё магчымае, каб статус сацыяльна значнай літаратуры вызначаўся не кім іншым, а самім творчым саюзам, які адным толькі гэтым можа даказаць грамадству і адстаяць перад ім сваю прафесійную годнасць.

Саюзу прафесіяналаў патрэбен давер. У нашых шэрагах дзесяткі прынцыповых крытыкаў і літаратуразнаўцаў, у структуры саюза – творчыя секцыі па жанрах прозы, паэзіі, драматургіі, літаратурнай крытыкі, публіцыстыкі, мастацкага перакладу. Хто, як не яны, кампетэнтна можа меркаваць аб літаратурна-мастацкіх вартасцях таго або іншага твора? Іх заключэнне і павінна стаць галоўным пасведчаннем – выдаваць!

Ношу адказнасці за стан беларускай літаратуры павінны ўзяць на сябе і літаратурна-мастацкія перыядычныя выданні. Варта пакончыць з гадамі ўсталяванай традыцыяй – друкаваць адны і тыя ж імёны, што ў апошнія гады ў нашых часопісах перарасло ў кругавую паруку: мы – вас, вы – нас. Часцей за ўсё такое становішча прыкрывалася гаворкамі пра якасць літаратурных твораў.

Упэўнены, што ў кожнага паэта, празаіка, драматурга, крытыка, літаратуразнаўцы і публіцыста знойдзецца ў творчым арсенале хаця б па твору ў год, вартых старонак нашага акадэмічнага "Полымя". І як галоўны рэдактар гарантую – мы значна пашырым у будучым годзе аўтарскае кола, аддадзім старонкі часопіса творам маладзейшых калег. Няхай на першым часе ў нечым і страцім, але толькі так можна пайсці наперад, даўшы маладым права "стаць на крыло".

Што патрэбна нашаму брату-пісьменніку, каб запатрабавана пачувацца ў грамадскім жыцці? Патрэбны духоўная радасць ад публікацыі яго новага твора ў перыядычным выданні, тое жывое трапятанне сэрца ад узятага ў рукі сігналу новай кнігі, што спараджае натхненне. І тут у ролі абаронцы і заступніка яго права на прафесію, на запатрабаванасць яе вынікаў грамадствам, здатны выступіць толькі наш творчы саюз.

**Мікола МЯТЛІЦКІ**



## ВЫДАВЕЦКАЯ РАДА

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" адноўлена дзейнасць выдавецкай рады, якая створана з мэтаю як мага больш аб'ектыўнай ацэнкі твораў, прапанаваных аўтарамі, для спрыяння ў фарміраванні тэматычнага плана.

У склад рады ўвайшлі вядомыя пісьменнікі. Сярод іх і рэдактары літаратурных выданняў, што друкуюць новыя творы і могуць сваімі парадамі дапамагчы выдавецтву ў выданні найбольш значных, дасканалых твораў.

На першым, арганізацыйным, пасяджэнні рады вельмі слушныя, цікавыя думкі наконт тэматычнага планавання, рэкламнай дзейнасці і прапаганды літаратуры, мастацкага афармлення кнігі выказалі Ніл Гілевіч, Васіль Зуёнак, Раіса Баравікова, Анатоль Бутэвіч, Мікола Мятліцкі, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Ліпскі, Алесь Пісьмянкоў, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч, а таксама супрацоўнікі выдавецтва.

**Н. К.**

## ВЕРШЫ І МАЛЮНКІ — ПЕСНЯРАМ

Дзіцячай творчасці ў Асіповіцкім раёне заўсёды ўдзялялася вялікая ўвага. Тут дзейнічае нямала школьных літаратурных аб'яднанняў, створана раённае літаб'яднанне.

Менавіта яно сумесна з метадычным кабінетам раённага аддзела адукацыі правяло конкурс на лепшы верш, малюнак, сачыненне, прысвечаныя 120-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Падвядзенне вынікаў гэтага конкурсу, якое адбылося ў райцэнтры, пераўтварылася ў сапраўднае свята. Вучні з розных школ раёна чыталі вершы, спявалі песні. Стэнды былі ўпрыгожаны малюнкамі, на стэлажах ляжалі лепшыя сачыненні.

Пакуль журы вызначала пераможцаў, перад дзецьмі і настаўнікамі выступілі запрошаныя на свята госці з Мінска — паэты Алесь Пісьмянкоў і Навум Гальпяровіч. Яны вызначылі і ўласныя прызы для юных паэтаў.

Трэба адзначыць добрую моўную падрыхтоўку вучняў, што пераканаўча сведчыла пра работу настаўнікаў роднай мовы і літаратуры.

**Н. К.**

## «ДЗЕ МОЙ ЧОРНЫ ПІСТАЛЕТ?..»

Бібліятэка імя Ф. Багушэвіча адкрыла новы сезон творчых сустрэч, запрасіўшы Зміцера Бартосіка з нагоды выхаду яго кнігі "Чорны пісталет". Кніга выйшла ў Віленскім выдавецтве "Вострая брама", рэдактарам кнігі з'яўляецца Сяргей Дубавец. У кнізе змяшчаюцца раздзелы пра Расію, Гомель, Мінск і розныя куточкі Беларусі, якія ён апісвае з асаблівай шчырасцю і любоўю. "Я не збіраўся станавіцца пісьменнікам — гэта ідэя Сяргея Дубаўца", — жартам гаворыць Зміцер Бартосік. Гэтыя словы яшчэ раз пацвярджаюць той факт, што пісьменнікамі не толькі нараджаюцца, але імі і становяцца. Зміцер не толькі піша, а і прыгожа спявае. На вечарыне ён выканаў свае песні, чытаў некаторыя апавяданні з кнігі, адказваў на пытанні слухачоў.

На сустрэчы панавала атмасфера ўзаемаразумення і цеплыні. Спадзяюся, што такія вечарыны ў бібліятэцы імя Ф. Багушэвіча будуць рэгулярнымі. Мы, навучэнцы аддзялення беларускай філалогіі пед. каледжа № 1, з вялікім задавальненнем будзем іх наведваць.

**Вікторыя БУТУРЛЯ,**
**навучэнка Мінскага дзяржаўнага педагагічнага каледжа**

## «ДЗЕЯСЛОЎ» У ГОМЕЛІ

Першая творчая сустрэча новага літаратурнага выдання "Дзеяслоў" з чытачамі адбылася ў Гомелі. Перад студэнтамі-філфакаўцамі ГДУ імя Францыска Скарыны выступілі галоўны рэдактар "Дзеяслова" Барыс Пятровіч і яго намеснік Эдуард Акулін.

Аўтарскі чыннік першага нумара выдання годна прадставіў паэт Міхась Скобла. Творчы дэсант "Дзеяслова" папоўніў і Алесь Бяляцкі — колішні выпускнік тутэйшага універсітэта.

Ад "гамяльцоў" сталічных гасцей прывітала сваімі чароўнымі песняспевамі Вальжына Цярэшчанка.

Сустрэча прайшла ў цёплай прыязнай атмасферы. І не дзіўна. Двое з трох сяброў рэдакцыі "Дзеяслова" — палешукі. На гэтую акалічнасць звярнуў увагу прысутных паэт і выкладчык ГДУ Віктар Ярац, які выступіў у ролі вядучага імпрэзы.

А больш чым паўгадзінная чарга па, як нехта зазначыў, гістарычны нумар "Дзеяслова" і памятны аўтограф ад пісьменнікаў сталі красамоўным фактам своечасовасці з'яўлення і чытацкай запатрабаванасці новага літвыдання.

**Н. К.**

## УЛАДАРКА ЧАРОЎНЫХ ЗЁЛАК

Пад такой назвай прайшло чарговае пасяджэнне літаратурнакраязнаўчага клуба "Жывіца", які працуе пры Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы. Яно было прысвечана 110-годдзю з дня нараджэння легендарнай беларускай пісьменніцы Зоські Верас (Людвікі Антонаўны Войцік). З кароткім і змястоўным словам пра найбольш важныя этапы яе жыцця выступіў супрацоўнік бібліятэкі, краязнаўца і выдавец Міхась Казлоўскі. Засяродзіўшы ўвагу прысутных на універсальнасці грамадскіх учынкаў гэтай незвычайнай асобы, выступоўца падкрэсліў яе апантанасць, руплівасць, шчырую і бясконцую веру ў будучыню роднай Беларусі.

Даўні сябра Зоські Верас, госць з Мінска, пісьменнік і літаратуразнаўца Уладзімір Содаль падзяліўся з прыйшоўшымі на сустрэчу сваімі ўспамінамі. Расказаў пра яе шчырае, але трагічнае каханне да Фабіяна Шантыра — вядомага беларускага пісьменніка і грамадскага дзеяча пачатку XX стагоддзя. Зачытаў цікавыя ўрыўкі з іхняга ліставання. Пра дружбу Зоські Верас з вучнямі Мясоцкай школы, што на Маладзечаншчыне, пра некаторыя вельмі каштоўныя матэрыялы, дасланыя ёй спецыяльна для школьнага музея, згадала пытанні, на якія ўсе атрымалі грунтоўныя адказы.

**Наталля ПЛОТАВА**

**ЛІМ-ЧАСАПІС**

# СПАВЯДАЛЬНІКІ СПАВЯДАЛЬНІКАЎ

Юбілейная дата — асаблівая нагода, каб вынесці на ўзлобак памяці духоўнае свячэнне імёнаў. Сёлета ў пашаноце сваіх 120-х угодкаў — залатыя спарышы нашай літаратуры — Янка Купала і Якуб Колас. Класікі, народныя ў самым праўдзівым азначэнні, песняры Айчыны, лірычныя мройнікі, думныя творцы... А яшчэ іх, і зусім справядліва, называюць Настаўнікамі, Прарокамі, Апосталамі нацыі.

Не так часта мы дазваляем сабе пісаць высокія найменні з вялікай літары. У XIX




стагоддзі было прынята вызначэнне нацыянальнасці ўшаноўваць вялікай літарай. У канцы XX века мы прыўзняліся ў напісанні слова "Бог". Менее сёння ахвотнікаў прыніжаць Айчыну, Бацькаўшчыну (хаця б у напісанні гэтых урачыстых сімвалаў нашай мацерыковасці). Францішак Скарына ў сваёй віленскай новазапаветнай кнізе (1525 г.) надрукаваў "Дзеянні апосталаў" і іх "Пасланні". Евангельскі апостал — гэта пасланец. Заўзятымі руплівымі прапаведнікамі ідэй нашага Адраджэння, народнай прагі да зямлі, якая запавешчана Богам, былі Янка Купала, Якуб Колас, дзесяткі іх геніяльных сутворцаў. І ўсё ж першымі спавядальнікамі спадзяванняў абуджанага сто гадоў таму народа сталі яны — раўнавеснікі Ян і Якуб.

Пасля стварэння 13 лістапада 2001 года Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па правядзенні ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа, былі абнародаваныя цікавыя культурніцкія і выдавецкія праекты. Так, у Беларускім фондзе культуры выйшла ў свет юбілейнае выданне кнігі Якуба Коласа "Новая зямля" на трох мовах — беларускай, рускай і польскай. Прэзентацыю кнігі намечана правесці ў Мінску, Маскве і Варшаве.

У межах святкавання 120-гадовага юбілею Янкі Купалы Літаратурны музей Купалы рыхтуе выданне кнігі санетаў песняра на васьмі мовах свету: беларускай, украінскай, польскай, рускай, англійскай, французскай, нямецкай ды іспанскай.

У серыі "Беларускі кнігазбор" мяркуецца выдаць да дня народзінаў паэта першы з двух тамоў ягонага выбранага. Апрача гэтага, у планах узгаданага Літаратурнага музея — выданне кнігі песняра на англійскай мове.

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" таксама прычынілася да такой важнай у культурным жыцці рэспублікі даты і прысвяціла ёй дзесяты выпуск зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына", дзе сабрана толькі невялічкая частка з усяго, што напісана пра волатаў Купалу і Коласа.

Прымайце іх, юбіляраў гэтай кнігі, як сваіх самых самаахвярных, дабрадзейных настаўнікаў. І самі, дзякуючы аўтарам зборніка, якія прысвяцілі Коласу і Купалу свае паэтычныя ці празаічныя радкі, пазнавайце і прызнавайце іх за родных, блізкіх. "І не бойцеся нікога, — раіць паэт Сяргей Законнікаў. — Бо мы жывём на сваёй зямлі, пад сваім небам, дадзенымі нам Богам. Другой Беларусі не будзе. Яна і ў свеце, і ў нас — адна! І толькі нам — прадстаўнікам усіх нацыянальнасцей — будаваць і адстойваць яе ў імя і дзеля нашых нашчадкаў, у імя і дзеля праўды і справядлівасці".

Значыць, не буднымі і не сіратлівымі стаім мы перад будучыняй нашай. Нам застаецца толькі прыслухоўвацца да геніяў нацыі і спаўняць іх запаветы: "...Вам трэба любіць, ведаць і шанаваць мову свайго народа і ўмець дасканала валодаць ёю" (Якуб Колас), "...Цвёрда верыць, што верх возьме праўда" (Янка Купала).

**Сяргей ПАНІЗНІК**

**ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА**

# АСЕННЯЯ ЭЛЕГІЯ

Залатая восень пасля Пакроваў: золата лісця і золата зямлі. Ціха, цёпла, самотна, утульна. Час, калі думаецца асабліва ясна, асабліва мякка і шчымліва. Калі адкрываюцца нейкія новыя, незнаёмыя глыбіні, калі душу апаноўвае жаласлівая і трывожная туга. Як заўсёды ў такі час, прыходжу на Вайсковыя могілкі, мяне цягне сюды з неймавернай сілаю.

Самы дарагі мне куток на Вайсковых могілках — там, дзе пахаваны Якуб Колас і Янка Купала. Волаты, класікі, найвялікшы гонар усёй беларускай літаратуры. І тут, па-за жыццём, яны разам. Абыходжу могілкі з левага боку, бо з самага краю — не менш дарагая мне магіла майго бацькі, таксама беларускага пісьменніка. Затрымліваюся ля яе, шчымліва гляджу на родны партрэт, выцісныты на чорным граніце, затым пацікую, з болем у сэрцы ўзбіраюся па вузкай няроўнай сцежцы ўверх. З-за жоўтага высокага каштана здалёк прыветна мне ківае цёмнай зграбнай галоўкай панна Ядвіся, мроіцца светлы, удумлівы твар настаўніка Лабановіча. Я так люблю гэтыя вобразы, што хваля ўздзячнасці ледзь не задушвае мяне. Вымаўляю як зорную малітву: "Якуб Колас, Якуб Колас, Якуб Колас!"

Кладу вішнёвыя ружы на цёмна-шэры граніт, схіляюся ў нізкім паклоне над магілай. Паволі ўздымаю вочы ўверх, здароўкаюся з любімым пісьменнікам. Вакол — цішыня, народу зусім мала — нядзеля. Відаць, на Стаўбцоўшчыне, радзіме Якуба Коласа, ужо прайшлі "Каласавіны", згадваю я. З днём нараджэння цябе, Канстанцін Міхайлавіч!

"На ясным небе загараліся зоркі, дрыгацелі, свяціліся рознакаляровымі агеньчыкамі, пераліваліся, як бы там трапяталі крыльцамі нейкія дыяментныя матылі..."; "Колькім людскім пакаленням свяцілі гэтыя зоркі! — разважаў настаўнік, — людскія пакаленні даўно сышлі з твару зямлі, і вецер даўно параздзімаў іх магілы і разнёс па свеце прах касцей іх, а яны, спакойныя зорачкі, кожную ясную ночку будуць свяціць сваім нямяцежным бляскам, неўспагадныя на ўсе мітусенні і трывогі ўсхваляванай душы чалавека. А мы перабудзем свой век, колькі нам прызначана, гэты страшэнна кароткі міг, малюпасенечкае звенца ў бясконцым ланцугу жыцця, і ніякага следу не захаваюць па нас бязлітасныя часы. І ці варта так прырастаць да гэтага жыцця, да гэтага нязначнага моманту ў ходзе часаў?"

Як аказалася, варта, варта было прырастаць (інакш не было б такіх цудоўных, таленавітых коласаўскіх твораў), і "бязлітасныя часы", як засведчыла гісторыя нашай літаратуры, усё ж былі не зусім бязлітаснымі, бо захавалі па яму, Коласу, найвялікшы і найглыбейшы след — яркі, гарачы след Творчасці.

Праз колькі часу падыходжу і да скульптуры Янкі Купалы. Ён узнёсла і светла глядзіць на мяне. Кладу яму на калені дзве яркія свежыя ружы: няхай парадуецца за свайго сабрата па пяры. Лістапад — незвычайна шчодры для Беларусі месяц (я маю на ўвазе і дзень нараджэння Уладзіміра Караткевіча). Стаю. Маўчу. Міжволі ўсплываюць у памяці энергічныя купалаўскія радкі:

*Не веру ідалам паганым,*
*Што выразаюць разьбяры.*
*Бажкам не веру маляваным,*
*Што мажуць фарбай маляры.*

*Не веру купленым прарокам,*
*Што з казальніц за грошы лгуць.*
*І сочаць прагавітым вокам,*
*Скуль больш чырвонцаў ім нясуць.*

*Не веру ў фокуснікаў цуды*
*Усіх народаў і вякоў,*
*Што ў ход пускаюць хітра ўсюды*
*Туман на цёмных слепакоў.*

*Не веру ў каменны багоўні,*
*Ў людской асвенчаны крыві,*
*Дзе толькі вяжуць, бы ў прыгоне,*
*Жывому духу ланцугі.*

*Ні за якую плату, меру*
*Не дамся гэтай варажбе...*
*Ў народ і край свой толькі веру*
*І веру ў самаго сябе.*

Развітваюся, вяртаюся да магілы Канстанціна Міхайлавіча. Нейкі лёгкі сум цяпер агортвае мяне. І не толькі таму, што пройдзе тыдзень-два і пачнуцца халады, стануць незнаёма шэрымі, голапаніклымі дрэвы і кусты, спустошыцца прыгажуня-зямля і не будзе болей зелянець мяккая мілая траўка — уцеха сэрцу. Тут, на Вайсковых могілках, будзе тады асабліва сіратліва. Самае журботнае іншае: той, хто лунаў духам гэтак высока і змагаўся з балотам шэрай будзённасці, з усім тым, што прыніжае, прыціскае чалавечую годнасць і не дае ёй расцвесці ў душы народа, сам ляжыць пад гэтай вось шэрай гранітнай плітой і не скажа ўжо ніводнага палкага слова ў абарону сваёй роднай мовы, як бы горка ёй зараз ні прыходзілася. Ён змагаўся за яе да апошняга, у літаратурным сэнсе гэтага слова. Таму й паглядае з каменнай глыбы спакойна і сурова: усё, што мог, ён для яе і для сваёй Бацькаўшчыны зрабіў, аддаў цалкам ім свой цудоўны бліскучы геній. Каб кожны зрабіў тое ж самае...



Халадок сумнення закрадваецца ў душу, пранікае да самога сэрца. Каб зрабіць тое ж самае, ой колькі чаго трэба... Суцяшаю сябе думкаю: усё ж, усё ж мы сцвердзілі сябе як нацыя, як народ, на парозе новага тысячагоддзя ажыццявілі сваю галоўную гістарычную мару — набылі Незалежнасць, а далей... далей будзе ўсё залежаць ад высілкаў самых лепшых, самых верных і адданых сяброў Беларушчыны, і ў першую чаргу ад мастакоў і літаратараў.

Божа, дай Беларусі шчасця! Дай ёй далейшага росквіту роднай мовы і высокіх і яркіх талентаў — яна заслужыла, выпакутавала гэта ўсёй сваёй гаротнай гісторыяй!..

* * *

Позірк мой ізноў, у каторы ўжо раз, утаропліваецца ў шэрую магільную пліту. Па целе прабягаюць дрыжыкі.

Я ж ведала яго, неадночы размаўляла з ім, дарыла яму краскі і грыбы, ён надпісаў мне з любоўю сваю кнігу: "Мілай, слаўнай Рымачцы Стаховіч на памяць аб Каралішчавічах. Якуб Колас. 1953г.". І вось яго няма, даўно няма. Няўжо мозг, які назбіраў столькі глыбокай інфармацыі, столькі найвыдатнейшых думак і развагі, стварыў столькі моўна-літаратурных шэдэўраў, паэтычных радкоў выключнай эмацыянальнай сілы, мозг Генія мог у адно імгненне загінуць, знікнуць, спыніць сваю карысную дзейнасць?.. Гэта не ўкладваецца ў свядомасці, з гэтым немагчыма пагадзіцца... А ягоная іскрыстая, няўрымслівая Душа? Багатая, спагадная і шчырая? Няўжо яна не лётае дзе-небудзь, азораная ясным дзівосным святлом, і не пасылае нам свае разумныя чароўныя сігналы? Няўжо ўсё, ўсё — прах, тлен?.. І чалавечае "я" знікае бясследна?.. Нашто тады так цярпліва вырошчваць яго? берагчы і песціць?.. Нашто тады ўвогуле ўсё?..

Калісьці і сам будучы вялікі паэт пакутаваў над гэтымі пытаннямі: "Я памру. Маладым, пажылым ці старым, але факт той, што памру, бо я, як і ўсё, што мае ў сабе пачаткі жыцця, падлягаю смерці, бо ўсё на свеце, толькі што зарадзіўшыся для жыцця, ужо мае ў сабе адзнакі і пячаць смерці. І людзі звыкліся з гэтым, і нікому наваті ў галаву не прыходзіць выказаць свой пратэст проціў смерці і весці з ёю змаганне, як бы ўжо даўно-даўно змовіліся прызнаць над сабою яе ўладу, лічыць гэту ўладу справядліваю і законнаю..."; "Лабановіч жахнуўся. Ён як бы пачуў, што нехта неадхільны і нязмольны замахнуўся над ім цяжкаю булавою і вось-вось апусціць яе на галаву... Ён ніяк не мог пагадзіцца з думкаю аб смерці. У гэты момант яна была для яго найбольшым ворагам на свеце і як бы засланіла сабою ўсё, здушыла яго, замкнула ў нейкі цёмны і цесны круг... Але чаму ж людзі аб гэтым не думаюць?.. А можа, і думаюць, і, напэўна, многа думаюць, толькі думкі гэтыя трымаюць пры сабе, бо што казаць пра іх таму, хто і сам мае такую ж долю?"; "Таксама будзе, — разважаў Лабановіч, — такі момант, калі я ступаю апошні крок майго жыцця, апошні момант, а там — смерць, там — канец!.. А далей што? Далей — цёмная і жудасная ноч нябыту... Гэта — чалавек! Гэта — тая неспакойная форма, у якой так часта змяняецца змест! Нейкі гаспадар пакінуў яе. Яна перш называлася чалавек... Дзе ж гэтыя парыванні-імкненні? Дзе яны? А куды дзеўся сам гаспадар? Што ёсць там, па другі бок?.."

Тое ж самае ці, больш правільна, амаль тое ж самае пытанне ("А ўсё ж цікава ведаць, што ёсць там, за мяжой?") задаваў сабе, паводле В. Тараса, незадоўга да смерці і Алесь Адамовіч. Творчая чалавечая думка, пэўне, шукае Ісціну да апошняга імгнення, да апошняга ўздыху і патрабуе асэнсавання. Вось коласаўская "Забытая магіла":

*Адно захована названне*
*Магілы ў полі на гары*
*На тым закінутым кургане,*
*Дзе веюць вольныя вятры.*
*Нічога часы не схавалі:*
*Згнілі, зваліліся крыжы,*
*З пліты каменнай спаласкалі*
*І надпіс летнія дажджы.*
*А тут жыццё пачыла нейча,*
*І ў ім пахован цэлы свет...*
*Як дым, жыццё ты чалавечча:*
*Дыхнуў віхор — і згінуў след.*

Яшчэ больш змрочна ў Пімена Панчанкі:

*Калі закоціцца сэрца,*
*Ніколі не ўспыхнуць зоркі:*
*Цябе адвязуць, закапаюць —*
*Ляжы век глухі і сляпы.*
*Заплачуць жонка і дзеці*
*Ды ўнукі — журботна і горка —*
*Астатнія ўмомант забудуць...*
**("Калі закоціцца сонца")**

Праўда і не зусім праўда... Не поўная праўда, калі на тое пайшло. Тым болей для такога цудоўнага і смелага паэта, як Пімен Панчанка. Для яго залатога пяра, залатой беларушчыны. Для яго памяці аб ім.

Звечарэла. А я і не заўважыла. Я ўсё яшчэ там, у думках пра гаротнае і вечнае. Шчымліва карціць пытанне: чаму, ну чаму не занатавала тады я, у тыя далёкія гады, у якім-небудзь з дзённікаў свае шматлікія цікавыя назіранні? свае сумненні?.. свае адносіны да творчасці таго ці іншага пісьменніка?.. Якое багацце характараў прайшло міма мяне! Колькі жывых лёсаў!

Трымцелі на бліжэйшых дрэвах ацалелыя жоўтыя лісцікі, косы ніцай вярбы нібыта плакалі, жаліліся на нешта, вельмі-вельмі асцярожна шуршэў дробны малы дождж. Пакрысе думкі вярталіся да рэальнасці. Восень, залатая восень!.. І ружы, чароўныя ружы для Якуба Коласа. Няхай любоў да яго народа будзе

вечнай. Няхай вось гэтыя ружы расказжуць яму пра гэта. Няхай, як калісьці, ён ад душы ўзрадуецца.

Вось і магіла ягонай жонкі — Марыі Дзімітрыеўны, вернага, добрага і адданага сябра яго, адзінай і непаўторнай жанчыны ў свеце. "Лепшаму другу — Марусі, Якуб Колас". І ўсё ж Ядвіся, відаць, — першае і найпяшчотнейшае яго каханне. Самая яркая ўспышка ягоных маладых пачуццяў і сіл, росквіт яшчэ нясмелага трапяткога сэрца. Тое незабыўнае, што застаецца потым на ўсё жыццё і лашчыць, хвалюе яскравымі ўспамінамі кожную драбніцу сэрца.

Неба зацягваецца шэрымі хмарамі. Цені Ядвісі і Лабановіча, нібыта спуджаныя дажджом, паступова знікаюць, страчваюць свае абрысы, раствараюцца ў вільготным паветры. Бывайце, мае родныя!..

"Якое шчасце, што чалавек можа тварыць! — горача падумалася раптам мне. — Можа перадаваць Хараство душы і жыць у сваіх творах стагоддзі! Якое гэта неймавернае, ні з чым не параўнальнае шчасце... І якая гэта рэдкасная асалода душы... Тварыцы даваць гэтымнайцудоўнейшую магчымасць іншым людзям перажываць шчасце і пакуты герояў твора як сваё, блізкае, кроўнае і дарагое, і гэтым узбагачваць пачуццё і рамкі пазнанага ў жыцці ў дзвесце, трыста, у пяцьсот разоў, а можа, і ў тысячы. Пражыць за адно жыццё некалькі сот чужых і цікавых жыццяў — толькі мастацтва, толькі пісьменнік у сілах даць гэтую вялікую магчымасць Чалавеку! Так, толькі ён".

Вось вам і змаганне са Смерцю, вось вам і глыбокі свядомы пратэст супраць яе — супраць яе жудаснага, агіднага холаду і яе ўсёзнішчэння. Не, смерць — не канец усяму. Не! Не! Не! Нават калі гэты помнік-магілу калісь зруйнуюць, знясуць з твару зямлі і раскідаюць па кавалках, літаратурны твор застанецца некранутым — ва ўсёй сваёй чалавечай красе як найвялікшая скарбніца цудоўных непадробных думак, глыбокіх філасофскіх назіранняў, як крыніца бессмяротна прыгожых паэтычных вобразаў. Вось у якім сэнсе можна смела гаварыць аб чалавечай бессмяротнасці.

Халадок сумнення знікае канчаткова, як толькі я раптоўна ўспамінаю нечыя адмысловыя гаючыя словы (здаецца, Юрыя Лотмана): "Калі з'яўляецца Вялікі Майстра і стварае найвялікшы літаратурны твор, мова ягоная ўжо не памрэ, яна будзе жыць тысячагоддзі". Здорава! Значыцца, пяшчотная беларуская мова не загіне, яна будзе квітнець і жыць, бо на ёй напісаны, утвораны такія цудоўныя і дасканалыя паэмы, як "Сымон-музыка", "Новая зямля" і незабыўныя чароўныя "Палескія аповесці". Мілы, мілы Канстанцін Міхайлавіч! І як калісьці, "вобраз панны Ядвісі стаяў неадступна" ў яго вачах, "дражніў яго, кудысь зваў і смяяўся", так і сягоння, праз шмат гадоў, для некалькіх мільёнаў маладых людзей, юнакоў і дзяўчатак, ён застаецца чароўным, вабным ідэалам Жаноцкасці і Красы, тым недасягальным узорам у літаратуры, да якога імкнуцца найлепшыя беларускія пісьменнікі.

Колас нібыта ледзь-ледзь усміхаецца; лагодныя, удумныя вочы яго ўжо не здаюцца, як спачатку, халодна-суровымі, нявETлымі. Зморшчынкі ля іх амаль ажываюць, скрозь шэры камень пачынае прасвечваць Душа, і бліскучыя, яркія водсветы ад яе сагравюць усё наваколле.

"Што ні кажы, а жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода. Бо ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і яго адносін да другіх людзей бясконца разнастайныя, канчаткова не выяўлены і ніколі не могуць стаць канчатковымі. А прырода! Колькі вялікага здавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута перад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе магалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце?.."

Як добра было б, каб гэтыя мудрыя словы з "Палескіх аповесцей" былі выбіты вось на гэтай каменнай гладкай сцяне — якраз пад прыгожа зробленым надпісам "Якуб Колас", падумалася нечакана мне. Каб кожны, хто прыйшоў да помніка-магілы вялікага беларускага пісьменніка-класіка, адразу ж быў сагрэты ягонай думкаю, яе філасофскай глыбінёй, яе хараством і цеплынёй, яе верай у бязмежныя магчымасці чалавека.

**Рыма СТАХОВІЧ-ЛАРЧАНКА**

**НАЎЗБОЧ**

# НАШЫ СІМВАЛЫ ЎЗДОЎЖ АЙЧЫННАГА ШЛЯХУ

Раздумваючы пра 120-гадовы юбілей беларускіх літаратурных класікаў — Янкі Купалы і Якуба Коласа — зусім нечакана ўзнікла ў мяне асацыяцыя з класікамі расійскімі. Напершапачатку, такія іхнія паэты, як Аляксандр Пушкін і Міхаіл Лермантаў, кажучы словамі трэцяга, — Уладзіміра Маякоўскага, таксама ўяўляліся мне не інакш як "близнецами-братьями"...

Але — не... Не зусім так. Усё-ткі, калі заглыбіцца ў расійскую нацыянальную ідэю, тую, што "месціцца" ў свядомасці адукаваных расіян па-за афіцыёзам, то ясна выяўляецца, што Пушкін для іх — "гэта наша ўсё", а Лермантаў — толькі пэўная частка альбо не больш як істотнае дапаўненне да "ўсяго"...

Ды ўсё ж, як бы мы не карэкціравалі іх гістарычны светапогляд, а адзінапэўным сімвалам Расіі з'яўляецца яе былы і сённяшні дзяржаўны герб з двухгаловым арлом.

Нечым падобная на "структуру" згаданага сімвала, прабачаюся за такую алюзію, і гістарычная "нацыянальная трактоўка" нашых літаратурных класікаў. Насамрэч і па вялікім рахунку творчыя і чалавечыя **постаці** Якуба Коласа і Янкі Купалы — роўнавялікія і раўназначныя, як бы хто ні намагаўся пастаўіць каго з іх, на ўласна ім вызначанае, — вышэйшае ці ніжэйшае — месца. Бо па сутнасці класікі нашыя, па ўжо ўпомненай тут геральдычнай расійскай аналогіі, і ёсць нашым нацыянальным сімвалам — своеасаблівым "двухгаловым арлом" нашага адзінага беларускага духу.

Пачнём з **сіметрыі**.

Абодва — аднагодкі, нарадзіліся на Міншчыне ў 1882 годзе. Родавыя ж карані кожнага, калі з правільна начуць, — на Стаўбцоўшчыне. Абодва маюць аднолькавыя ініцыялы сваіх класічных псеўданімаў: Я.К. (Якуб Колас) і Я.К. (Янка Купала). Першыя іх зборнікі вершаў — "Жалейка" і "Песні жальбы" — назовамі, формай і зместам зноў жа вельмі блізкія.

Вось вытрымкі з іх ранніх вершаў.

**МУЖЫК**

*Што я мужык, усе тут знаюць,*
*І, як ёсць гэты свет вялік,*
*З мяне смяюцца, пагарджаюць, —*
*Бо я мужык, дурны мужык.*
*Чытаць, пісаць я не умею,*
*Не ходзіць гладка мой язык,*
*Бо толькі вечна ару, сею, —*
*Бо я мужык, дурны мужык.*
*Бо з працы хлеб свой здабываю,*
*Бо зношу лаянку і крык,*
*І свята рэдка калі знаю, —*
*Бо я мужык, дурны мужык.*

**(Янка Купала)**

**МУЖЫК**

*Я — мужык, бядак пахілы.*
*Усе ўшчуваюць мужыка.*
*Цягнуць кроў з яго і жылы,*
*Надрываюць яго сілы,*
*Ў мазалях яго рука.*
*Я — мужык, я — сын пакуты,*
*На мякіне вырас я,*
*Гічанамі пуза ўздута,*
*Ногі ў лапцікі абуты,*
*Бедна вопратка мая.*
*Я — мужык, я — сын бядоты.*
*Недаем і недасплю,*
*Гне мяне цяжар работы,*
*Дзень працую за два злоты,*
*Здзекі ўсякія цярплю.*

**(Якуб Колас)**

У інтэрвале аднаго года сталі Народнымі паэтамі Беларусі і адначасна — у 1934 годзе — членамі СП Беларусі. У 1937 годзе на Коласа і Купалу, першых у спісе дзевячаў літаратуры і мастацтва, былі заведзены справы на арышт...

Пэўна больш "вузкія", а таму больш дасведчаныя спецыялісты па "коласакупалаўстве", знойдуць і прывядуць прыклады яшчэ невядомых шырокаму чытачу сіметрый з жыцця і творчасці нашых вялікіх песняроў...

Цяпер — пра **асіметрыю**.

Найбольш заўважная яна ў праявах іх душэўнага і творчага складу, нераўнуючы як у тых расійскіх арлоў, галовы якіх павернутыя, адна — на захад, а другая — на ўсход.

Янка Купала — Іван Дамінікавіч Луцэвіч — шляхцюк (бацька быў, хоць і бедным, але арандатарам), каталік па веравызнанні, пісаў па-польску і па-беларуску...

Якуб Колас — Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч — з мужыцкай сям'і (бацька быў лесніком), хрышчаны ў праваслаўнай царкве, пісаў па руску і па беларуску...

"Новая зямля", на маё разуменне, — гэта своеасаблівая беларуская "біблія", яе "**стары запавет**".

"Тутэйшыя" — гэта "Дабравесце ад Янкі", "**новы запавет**".

За Канстанцінам Міхайлавічам пільна і неадступна наглядаў прыстаўлены да яго "стапаначальнік" Аляксандр Амвросьевіч Каратай...

За Іванам Дамінікавічам — не менш блізкі яму чалавек, безапеляцыйны сямейны рэдактар і цэнзар...

Янка — неўраўнаважаны паднебны багемнік, па сутнасці няшчасны ў каханні і бяздзетны (таму і вершы ягоныя, асабліва ў маладым і сталым веку, да пачатку 20-х гадоў, былі яму, як родныя дзеці, як адзінамагчымы працяг ягонага роду).

Якуб жа — здаровы, заземлены і прагматычны, у добрым сэнсе слова, "канцылярыст", дабрабытны сямейнік...

**Лёс**, а калі хочаце, выпадак (хвароба, віно) ці свядомае альбо, хутчэй, падсвядомае адчуванне **сваёй** творчай і чалавечай непапраўнай віны перад Богам (паэтычным талентам, які Ён даў яму) **штурхае** Купалу ў Маскве ў глыбокі лесвічны пралёт, насустрач смерці, не так, пэўна, для апраўдання перад кім бы там ні было, як дзеля ўзвышэння ўласнага чалавечага духу над усімі акалічнасцямі свайго зямнога часу... (А нам чамусьці ўсё хочацца, каб нас абавязкова "нехта штурхаў" **да свайго трагічнага краю**, мы паўсюль пра тое з агаворкамі заяўляем, як бы даючы зразумець іншым, што самі мы нягдольныя ні на такі крок, ні на падобны (годны) чалавечы ўчынак (а ў Івана ж Дамінікавіча, даведзенага да адчаю бальшавіцкай карнай машынай, не будзем забываць, ужо была спроба самагубства ў 1930 годзе!)...

Паралельна, а можна сказаць, па ментальнай інерцыі, заўважу, што і сёння некаторыя нашыя нацыянальныя, шырока вядомыя постаці апынуліся па-за мяжою, аказаліся выштурхнутымі за край шматпакутнай Айчыны — і Зянон, і Васіль, і Алесь, і Уладзімір, а — во, ужо й Славамір...

Незадоўга да сваёй смерці Якуб Колас хадзіў у ЦК КПБ, каб перадаць ліст са сваёй трывогай з выпадку "звужэння" ў грамадстве і на дзяржаўным узроўні выкарыстання беларускай мовы. Ён турбуецца і вычувае віну не за сваё, а за **агульнае** — за мову, дух і культуру народа...каб неўзабаве закрыць вочы з адчуваннем "змогшага немагчымае" альбо, кажучы словамі Купалы: "Я адплаціў народу, // Чым моц мая магла"...

Аб'ёмна-велічны помнік прытомленаму жыццём Якубу Коласу ў атачэнні герояў ягоных твораў стаіць на шырокай плошчы яго імя поруч з шумным і шматлюдным народным Камароўскім рынкам...

*Ну што ж? Пажыў, пабродзіў,*
*Дарог прамераў шмат.*
*Стаміўся ты ў паходзе —*
*Спачынь жа ў зямлі, брат!*
*І сам я не пабачу,*
*Як згасне мой агонь.*
*Дык што ж: Хіба паплачу,*
*Падпёршы ціха скронь.*
*Мяне ў жывых не стане,*
*Сыду я ў небыццё,*
*Ды вечна будзе ранне,*
*І песні, і жыццё.*

Элегантны ж помнік Янку Купалу ледзь праглядваецца з праспекта Францішка Скарыны: пясняр з кавенькаю ў дарозе... Прыцененай алеяй сквера кіруецца і ён, заклапочаны сваім — беларускім — словам, у бок... былога будынка ЦК КПБ, у які напярэдадні сваёй смерці заходзіў і Якуб Колас...

*Я ад вас далёка...*
*Божа ты мой мілы!*
*Неразлучны з вамі*
*да самой магілы, —*
*Не пакіну думаць светам*
*і ўпацёмку:*
*Як там жывяцё вы,*
*як жыве старонка?*
*А хоць дасць мне доля*
*ў дамавіне месца, —*
*Ўстане цень з зямлі мой,*
*на крыж абапрэцца.*
*І ў той бок глядзеці будзе*
*век нязводна,*
*Дзе ляжаць загоны Беларусі*
*роднай.*

О-хо-хо, браткі мае, хочам мы таго ці не хочам, ды калі маем Айчыну ў сваёй душы і ў сэрцы, то ў рэшце рэшт усе нашыя дарогі аднойчы зліваюцца ў адзіны і спрадвечны беларускі шлях...

**ЛеГал**





## У ТВОРЧАЙ МАЙСТЭРНІ КЛАСІКА

Самай вялікай узнагародай для пісьменніка з'яўляецца запатрабаванасць яго твораў чытацкай аўдыторыяй. Выдадзеная спадчына Максіма Гарэцкага ў кніжных крамах не залежваецца. Збор твораў у 4-х тамах і два дадатковыя яго тамы сталі, можна сказаць, бібліяграфічнай рэдкасцю. Цікавяцца творчасцю выдатнага мастака слова чытачы розных узроставых катэгорый і з самымі




рознымі інтарэсамі. Нязменнай застаецца ўвага навукоўцаў.

Нядаўна ў выдавецтве "Беларуская навука" выйшла кніжка Тэрэзы Голуб "У творчай майстэрні класіка". Выданне прымеркавана да 110-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, якое будзе адзначацца 18 лютага 2003 года.

І выкладчык, і студэнт, і выдавец – кожны знойдзе тут для сябе шматновага і карыснага. Многім, напрыклад, вядома, што пісьменнікі парой карыстаюцца псеўданімамі і крыптанімамі. Максім Гарэцкі таксама звяртаўся да такога спосабу пазначэння аўтарства сваіх твораў. На прыкладзе яго творчасці Тэрэза Голуб у раздзеле "Аўтару аўтарава" праводзіць сістэматызаванае даследаванне праблемы атрыбуцыі. У выніку расшыфраваны многія подпісы Гарэцкага, выяўлена пэўная колькасць артыкулаў, надрукаваных ім наогул без подпісу.

Пра выдавецкі лёс падрыхтаванага, але не выдадзенага "Зборніка апавяданняў", гісторыю яго тэксту, своеасаблівыя шляхі жанравых пошукаў аўтара гаворыцца ў раздзеле "Лабірынтамі творчай задумы". Тэрэза Голуб прыходзіць да высновы, што "Зборнік..." М.Гарэцкага з'яўляецца першым рэальным увасабленнем даўняга жадання пісьменніка, "каб на стале" "каля тоўстай кніжкі вершаў "Шляхам жыцця" ляжала б не ценейшая кніжка прыгожай прозы". Састаўныя часткі гэтага арыгінальнага па жанравай і сюжэтна-кампазіцыйнай арганізацыі мастацкага палатна, паводле назіранняў даследчыцы, "адначасова з'яўляюцца самастойнымі завершанымі творамі і разам складаюць адзіны духоўна-эстэтычны арганізм".

Кніга Тэрэзы Голуб адметная тым, што ў ёй упершыню ў нацыянальным літаратуразнаўстве абагульняецца тэарэтычны вопыт беларускіх тэкстолагаў. На падставе вывучэння здыцыйнай практыкі творчай спадчыны Максіма Гарэцкага і ўсіх вядомых крыніц тэксту пісьменніка абгрунтоўваецца неабходнасць выдання Поўнага збору твораў, выпрацоўваюцца шляхі яго падрыхтоўкі.

Выдадзеная "Беларускай навукай" кніжка Тэрэзы Голуб "У творчай майстэрні класіка" каштоўная сваім зместам. Мастацкае афармленне першай старонкі вокладкі нясе ў сабе глыбокі філасофскі сэнс і адпавядае сутнасці галоўнай думкі даследавання.

**М.Т.**

**ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА**

# УДЗЯЧНАСЦЬ ЧЫТАЧА

Жыла наша сям'я на шклоўскай зямлі, на хутары Чарэйцаў Круг. Было там шэсць сялянскіх хат. У нашай хаце штодня гучалі вершы — мае старэйшыя сёстры Надзея і Марыя вучыліся ў школе. Пазней даведаўся, што найбольш гэта былі вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа. Здаралася, іншы верш мне здавалася запомніць раней, чым сёстрам... Тады яны мне паказвалі дарогу на вуліцу. Не злаваўся, бо са мной новы цікавы верш:

*Уцякай, мароз дзядуля!*
*Чуеш ты стары ці не?*
*На пагорках — булі-гулі! —*
*Песні чуюцца вясне...*

— гукаў я на ўсю моц свайго дзіцячага голасу. Неўзабаве збіралася чарада дзяцей, і мы разам дэкламавалі:

*А як слаўна каля хаткі,*
*Нам пабегаць, пагуляць!*
*Ну, зіма, збірай манаткі,*
*Годзе нас табе ўшчуваць!*

Ад такіх слоў хацелася падскокваць, спяваць, што мы і рабілі. Да таго ж, верш так і называўся: "Песня аб вясне".

А праз год-два веснавую песню зноў сустрэў я ў школьнай "Чытанцы". Тады і даведаўся, што "Песню аб вясне" напісаў паэт Якуб Колас. Убачыў і запомніў яго партрэт.

Цікава, што і першая кніжка, якую я сам прачытаў, быў невялікі ілюстраваны зборнік вершаў Якуба Коласа.

Піянерскім гімнам для многіх, у тым ліку і для мяне, стаў верш "Піянерам". Вельмі ўжо здорава гучалі яго радкі:

*Шлях паказан вам шырокі,*
*Шлях прасторны,*
*Светлы, зорны,*
*Дык наперад цвёрдым крокам,*
*Шум вясенні, яснавокі!*

З верша "Іскры Ільіча" даведаўся, што ёсць часопіс з такой назвай.

*Там апавесці, нататкі*
*Пра звяроў і пра калгас.*
*А рысункі, а загадкі!..*
*Вось дзе можна бавіць час!*

Упрасіў бацьку і атрымаў грошы на свой дзіцячы часопіс. Ганарыўся, бо паштальён прыносіў часопіс і піянерскую газету і ўручаў мне асабіста, а на іх — штэмпель з маім адрасам, імем і прозвішчам. З самога Мінска дасылалі. Больш такіх штэмпелей на газетах і часопісах за ўсё сваё доўгае жыццё не бачыў я.

Напярэдадні 90-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа падзяліўся я ўражаннямі ад далёкіх дзіцячых светлых успамінаў пра любімага пісьменніка з А. В. Пысіным. І калі ён пачуў ад мяне радок "Пра звяроў і пра калгас", то адрэагаваў бурна:

— Не можа быць, Віктар, каб Колас такое напісаў!

Я даў яму том пісьменніка з вершам пра часопіс.

— Праўда, напісаў. Выходзіць, што і ў класікаў здараецца такое, — расчаравана сказаў Аляксей Васільевіч.

З прозай Якуба Коласа пазнаёміўся таксама даволі рана. Школьная сяброўка сястры Марыі суседка Ніна Іванова па дарозе ў школу вельмі хораша расказала змест аповесці Коласа "На прасторах жыцця". Мяне так зачаравала, што адшукаў кніжку. Чытаў, як паэму, як казку... Затым перачытаў яшчэ раз. І праз доўгія гады ад аповесці засталося пачуццё чагосьці светлага, радаснага, прыгожага. Творы пісьменніка заўсёды давалі мне зарад аптымізму. І не толькі творы Якуба Коласа. Любоў да кнігі ў пасляваенныя гады прывяла мяне на сцяжынку прафесіі бібліятэкара. І не шкадую аб гэтым.

Чытаў у дзіцячыя гады я многа. Часам, бадай, і залішне, бо аднаго дня ў бібліятэцы Радзішчанскай пачатковай школы не аказалася непрачытаных кніжак. Вельмі ўдзячны першым настаўнікам Вользе і Фёдару Лук'янавым. Яны паклікалі мяне да сябе на кватэру і прапанавалі кнігі са сваёй бібліятэкі. А яна ў іх была на той час багатая. Першай кніжкай з іхняй бібліятэкі была зноў-такі аповесць Якуба Коласа "Дрыгва". З супервокладкай, з каляровай шаўковай стужкай-закладкай. Пазней, ужо як ішла вайна з фашыстамі, то не раз узгадваў эпізоды аповесці. Калі ж акупанты загадалі адкрыць у вёсцы нямецкую школу, то, успомніўшы народнага мсціўца дзеда Талаша, разам з суседам-сябруком Грышкам Міронавым ноччу мы прывялі печ, што абагравала вялікі будынак школы, у непрыгодны стан. І ў гэтай школе заняткі болей не праводзілі.



Пасля вайны не раз чытаў і перачытваў паэмы "Новая зямля", "Сымон-музыка", іншыя творы любімага пісьменніка, але нават не марыў, што калі-небудзь убачу яго самога. Ды збылося і гэта.

Давялося два гады жыць у Мінску. Нават вячэрні універсітэт марксізму-ленінізму скончыў там. Працаваў у адным з падраздзяленняў Міністэрства дзяржаўнай бяспекі. На кастрычніцкія святы ў 1950 годзе далі мне запрашальны білет на ніжнія трыбуны ля помніка Леніну. Вось там на ўрадавай трыбуне, якая была вышэй, сярод кіраўнікоў рэспублікі і ўрада ўбачыў Якуба Коласа: у паліто, шапцы-папасе з каракуля, у рукавіцах. Хаця снегу яшчэ не было, але даймаў сыры пранізлівы вецер. Да таго ж дэманстрацыя доўжылася гадзіны. Час ад часу пісьменнік па гранітных прыступках спускаўся ўніз і крочыў размерана́й хадой да ўрадавага буфета.

Пагрэцца пайшоў, — шэптам гаварыў мне напарнік.

Праз лічаныя хвіліны Якуб Колас быў ужо на трыбуне. Запомнілася, што пісьменнік вельмі пільна ўглядаўся ў шарэнгі дэманстрантаў, быццам адшукваў постаці і твары знаёмых людзей. Быў засяроджаны, але часам твар свяціўся лагоднай усмешкай, тады вочы яго праменілі дабрынёю і зацікаўленасць. Я ўвесь час не зводзіў з яго вачэй: хацелася назаўсёды запомніць дарагія сэрцу рысы — перада мной быў жывы любімы пісьменнік.

У 1951 годзе пашчасціла ўбачыць пісьменніка ў другі раз. Толькі ўжо з больш сумнай нагоды. На аператыўным інструктажы чэкістаў была зачытана арыенціроўка, з якой вынікала, што Якуб Колас падазраецца ў сувязях з польскай і яшчэ адной краіны разведкай (англійскай ці французскай — на тое забыўся). Шпіёнам пісьменніка не называлі. Але з падазрэння гэта вынікала само сабой. За домам Якуба Коласа (ён непадалёк ад будынка Акадэміі навук БССР) устанавілі пільны нагляд. Мой сябрук- зямляк, Васіль, ён з Краснапольскага раёна родам, трапіў у тую каманду. Васіль ведаў, што я прыхільнік коласаўскага таленту, і праз дзень ці два (быў якраз пачатак лета) запрасіў мяне паглядзець дом паэта:

— А можа, і самога ўбачыш, — сказаў ён мне.

Дом Якуба Коласа невялікі, драўляны. Звычайны вясковы, толькі добра дагледжаны. Агароджа ля дома невысокая, усё ў двары праглядваецца. На радасць мне, неўзабаве адчыніліся дзверы і на двор выйшаў гаспадар. Я пазнаў яго адразу, бо бачыў не толькі на партрэтах, а летась і на ўрадавай трыбуне. Якуб Колас патупаў па двары, зазірнуў нечага ў хлявчук, а затым на хвілінку прыпыніўся і паглядзеў у бок агарода. І тут жа ціхаю хадою падаўся ў дом. Пагладзеў і я на агарод: там расла нешырокая дзялянка жыта. "Навошта ў горадзе жыта?" — міжволі ўзнікла ў мяне думка. Спытаў у Васіля, але і ён адказу не знайшоў. І толькі праз шмат гадоў пазней даведаўся, што расло ў Коласавым агародзе не проста жыта, а элітнае жыта, новы ўрадлівы сорт. Якуб Колас папрасіў у вучоных-селекцыянераў жменю зярнятак і вырошчваў на сваёй дзялянцы жыта, каб насенне перадаць у калгас вяскоўцам. Цудоўны быў Пісьменнік, залаты Чалавек.

Крыху пазней, ужо пад восень, на чарговым інструктажы была агучана яшчэ адна сакрэтная арыенціроўка. У ёй згадвалася, што пісьменнік Янка Маўр, творамі якога я таксама зачытваўся яшчэ падчас вучобы ў сямігодцы, падазраецца ў сувязях з разведкамі трох краін: Польшчы, Англіі і Японіі. Янка Маўр таксама жыў у драўляным доме. Бачыў я і гэты дом, але ў той дзень (ды і ў іншыя таксама) гаспадар не выходзіў. Быў ужо стары і хворы чалавек.

Мне было над чым задумацца (і не толькі ад гэтых двух эпізодаў). Але думкамі дзяліцца з кім-небудзь было вельмі небяспечна. Даверыўся сябру Міхаілу:

— Адразу ўдвух заяву аб звальненні падаваць нельга, западозраць нас... Спачатку ты, а я крыху пазней, — сказаў ён (Міхаілу хацелася прадоўжыць вучобу, а навучальны год ужо пачаўся — новага чакаць трэба).

Заяву аб пераводзе мяне ў Магілёў не адразу, але задаволілі. У Магілёве месяцы праз тры (пачалося скарачэнне штатаў) удалося ўвогуле звольніцца ў запас. З таго часу мае праца і жыццё былі звязаны толькі з кнігай і літаратурай.

Праз нейкі час і мой сябра Міхаіл дамогся сваёй мэты: таксама звольніўся ў запас і паступіў на вучобу ў медыцынскі інстытут.

Пасля таго, як убачыў Якуба Коласа ў двары яго дома, пайшоў я ў кнігарню і аформіў падпіску на сямітомны збор яго твораў. Ён у мяне захоўваецца і па сённяшні дзень. Прыжыццёвае коласаўскае выданне. Вельмі памятныя тамы.

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**





# УВАХОДЗІНЫ Ў КОЛАСАЎ СВЕТ

Мне не выпала пабачыць народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У Мінск я прыехаў толькі праз два гады пасля смерці песняра — у 1958 годзе. Але Коласава імя, ягоныя творы пакінулі ў маёй душы незабыўны след. Першая вялікая, тоўстая, прачытаная мною кніга, была Коласава — "У палескай глушы". Яе я прачытаў пяцікласнікам. Прачытаў — і здзівіўся, як я гэтак хутка адолеў такую досыць ёмістую для мяне на той час кнігу. Уражанне ад кнігі было незвычайнае: гулліва-жартаўлівая размова маладога настаўніка з палескай школьнай старожкі вяла мяне ад радка да радка, інтрыгавала. Свет яе думак мне вабіў, здаваўся дзівосным. Тое першае пачуццё не сцерлася і праз гады. Неўзабаве пасля прачытання Коласавай аповесці мне выпала патрапіць якраз амаль у такую ж глухую палескую вёсачку, якую Якуб Колас апісаў у сваёй слыннай аповесці. І не проста ў вёсачку, але і ў такую ж школку, у якой разгортваюцца падзеі Коласавай аповесці. Гэта было дзесь у годзе пяцідзесятым у падкапенкавіцкай вёсачцы Смалянка. У гэтай вёсачцы настаўнічала мая старэйшая цётачка. Яна і жыла пры школе, у невялічкім пакойчыку-бакоўцы. І гэта мне жыва нагадвала тую школку, у якой настаўнічаў поўны аптымізму малады настаўнік Лабановіч. На гарышчы смалянскае школкі я пазнаходзіў старыя вартаўнічыя ліхтары. Яны мяне цалкам завялі ў свет Коласавай аповесці. От такімі былі мае першыя самастойныя ўваходзіны ў свет Коласавай творчасці. А затым ужо з школьных чытанак з замілаваннем вучыў "Не сядзіцца ў хаце хлопчыку малому" ("На рэчцы"), "Мой родны кут", "Ручэй", "Дуб"...

...Сілачом стаіць дуб разложысты!

Прыгадваецца і чытанне Коласавай "Новай зямлі"...

...Палеская, сярод лесу, суцішаная вёска Узнаж. У гэтай вёсачцы настаўнічала і яшчэ адна мая цётачка — Марыя. То от у яе ўтульнае хаціне, бывала, забярэмся на печ і цягнем "Новую зямлю". Чытала яе нам ці сама мая цётухна, ці яе дачушка Тамара. "Дзень быў святы. Яшчэ да рання бліны пякліся на сняданне... А для дзяцей найбольш святы. Абы наесціся багата..."

Кожнае слова ў паэме было сугучнае нам і зместам, і сваёй моўнаю плынню: зграбна, меладыйна. Пасля такіх чытанняў нечакана-негадана адкуль находзілі і такія думкі: "І хто ж гэта пусціў пагалоску і не на адно стагоддзе, што нашаю мову нічога нельга сказаць прыгожага?!..

Каб таму дых заняло!"

Змагаўся Якуб Колас за родную мову праз усё сваё жыццё, да свайго скону. Змаганне гэтае ішло двума шляхамі: праз само прыгожае пісьменства, праз хараство нашага слова, ягоную самабытнасць. А калі некаму і гэта не дапамагала, каму і гэтага было мала, то і не цураўся больш катэгарычных метадаў: пратэставаў! Моцна ўразіў мяне апошні паход народнага песняра за мову ў ЦК. Гэта было ў 1956 годзе, незадоўга да свае смерці.



Народны паэт прыйшоў у ЦК, каб пагаварыць з цэкоўцамі пра некаторыя заганы моўнай палітыкі ў БССР. Але цэкоўцы ўсяляк выкручваліся, ухіляліся ад гаворкі з Коласам, хаваліся ад яго, пазбягалі гэтай гаворкі. Не хацелі прымаць ягоныя развагі пра мову. Гэта моцна абурыла народнага песняра. Ён узрушаны вярнуўся дадому, якраз у гэты дамок, што стаўся музеем, гнеўна шпурнуў з парога на стол свой жаўтаваты, добра пацёрты партфель, з словамі:

— Яны будуць яшчэ мяне вучыць!

Узрушэнне было такое моцнае, што ён у гэты дзень і памёр...

Сеў за стол, каб выказаць сваё абурэнне на паперы і сканаў. Вестку пра смерць народнага песняра прынёс мне "ЛіМ". Я тады яшчэ жыў у сваім Мормалі. Вестка гэтая мяне моцна кранула. Падумалася: "От цяпер наша беларускасць пацiху-памалу пакоіцца пад адкон, застанецца безабароннай. Пакуль жыў Якуб Колас, партакраты хоць на яго агляддаліся... А зараз ім ужо рукі цалкам развязаныя!" Той жалобны нумар "ЛіМа" я паслаў на Цаліну. Там са студэнцкім гуртам гарбеў мой прыяцель Ігар Карабанаў. Тыднёвік той шчасліва дайшоў да цалінных земляў. Студэнты біялагічнага факультэта Гомельскага педінстытута, як згадвае Ігар Карабанаў, цяпер загадчык кафедры Мазырскага педагагічнага універсітэта, прафесар, прагна чыталі сумныя весткі з Мінска...

Прыгадваецца і яшчэ адзін момант.

...Зімовыя школьныя канікулы 1954 года я бавіў у згаданай ужо тут палескай вёсачцы Смалянка. Сюды ж прыехала з-пад Васілевічаў і мая стрыечная сястра Люся. Абое мы любілі мову, літаратуру, мроілі паэтычнымі катэгорыямі. І от аднойчы прыгожым марозным надвячоркам, цешачыся хараством навакольнай шэрані, мы з ёй склалі:

*А вечар быў тады цудоўны,*
*Калі стаялі мы з табою:*
*Свяціў над намі месяц поўны,*
*І зоры гралі між сабою.*
*А мы стаялі і глядзелі,*
*Як зоры ў небе зіхацяць.*
*І думкі нашы ўдаль ляцелі,*
*Хацелі ўвесь прастор абняць...*
*Стаяў мароз, трашчалі дрэвы,*
*Рыпеў пушысты мяккі снег.*
*А ў сэрцы чуліся напевы*
*Свабодных дум, шчаслівы смех.*

Як згадвае сястра, гэты верш мы паслалі ў газету "Піянер Беларусі". Але адтуль нам адказалі, што наш верш не падыходзіць на ізняга чытача. Тады, як мне прыгадваецца, скрыўджаныя на "Піянера", мы свой верш паслалі самому Якубу Коласу, хай ён разважыць: верш гэта ці не — ці штосьці іншае. Адказу мы не прычакалі, але і не крыўдавалі. Мы і тады адчувалі, што верш наш трохі пераймальны, што ў ім ёсць штось з Багдановічавых настрояў. Але гэта быў наш верш, верш з нашых грудзей, наша адчуванне свайго юнацтва...

Але як бы яно ні было там, а адчуванне, што на свеце ёсць чалавек, які зразумее наша юнацкае парыванне, было для нас кіроўным і незабыўным. А ўспамін наш пра гэта — светлы і непаўторны.

**Уладзімір СОДАЛЬ**







# ІХ ПРАРОЧЫ ПОГЛЯД

Чытаеш апавяданне Якуба Коласа "Пад Новы год", і міжволі ўзнікае аналогія з "Сіняй птушкай" М. Метэрлінка. Вядомы бельгійскі драматург удала паказаў адвечную пагоню чалавека за шчасцем, даказаўшы, што галоўнае — не спыніцца на паўдарозе, а нястомна працягваць пошукі.

Своеасаблівую інтэрпрэтацыю гэтая тэма набывае ў Я. Коласа. У адрозненне ад Метэрлінка, у якога твор мае форму народнай казкі, у беларускага пісьменніка гэта хутчэй алегорыя са строга вытрыманай аўтарскай канцэпцыяй разумення чалавечага шчасця. Рысы песімізму прысутнічаюць у абодвух творах. Прычым трагічны паказ некаторых з'яў жыцця абгрунтаваны як у філасофскім, так і ў сацыяльным плане. Апошні, дарэчы, набывае ў Коласа прэвалірующую ролю, што было звязана з часам напісання твора. Гэта быў перыяд, насычаны не толькі новымі пераўтварэннямі, але і жорсткай барацьбой за ўладу ў Беларусі. Грамадзянская вайна, нямецкая і польская акупацыя — усё самым непасрэдным чынам паўплывала на змест і псіхалагічны настрой апавядання.

Шчасце, як важнейшая дамінанта жыцця чалавека, не можа ажыццявіцца ў перыяд складаных грамадскіх пераўтварэнняў. Душэўны занепад нараджае містычны светапогляд і містычнае выйсце з цяжкай сітуацыі.

Гэтыя аспекты і абумовілі нараджэнне абодвух твораў.

Дзеянне ў іх адбываецца прыблізна ў аднолькавы час. У Метэрлінка — перад Калядамі, у Коласа — перад Новым годам. Усё гэта ўжо ставарае чароўны свет і вялікую зацікаўленасць. Аўтары не абышлі ўвагай і сацыяльны аспект — у творах паказаны бедныя сем'і. І, як кантраст, пышныя гульні багатых. У Метэрлінка гэта выяўляецца праз феерверкі і святочнае ўбранне сталоў і людзей. У Коласа — праз абмалёўку раскошнага балю.

Аўтары ўпэўнены, што багацце — не ёсць яшчэ шчасце. Гэта вельмі хісткая рэч. Сёння яно ёсць, а заўтра яго няма.

У Метэрлінка галоўныя героі — Цільцыль і Міціль — адпраўляюцца на пошукі сіняй птушкі для хворай дзяўчынкі. У іх шмат спадарожнікаў, галоўны з якіх Душа свету. У Коласа Лявонка марыць абляцець увесь свет. І ў гэтым жаданні яму дапамагаюць Новы год і Вецер.

Як бачым, Душа свету і Новы год выконваюць у творах аднолькавую ролю праваднікоў. Душа свету ўвасабляе ўсё самае патаемнае, усё тое, што нясе жыццесцвярджальны пачатак. Новы год — гэта надзея на новае жыццё, на тое, што ў будучым, магчыма, шчасце знойдзе свайго адрасата.

Сімвалізм у творах — той фактар, які вызначае далейшы шлях герояў. Іх імкненне змяніць жыццё ў лепшы бок.

Краіна ненароджаных (у Метэрлінка) і памерлых (у Коласа) дзяцей, у якую трапляюць героі, вырашае складанае філасофскае пытанне: без дзяцей няма будучыні. Усё жывое хоча жыць. Жыццё на зямлі для іх — вялікае шчасце. Бо толькі ад іх залежыць будучыня і магчымае выратаванне людзей.

Антываенны пафас, адмаўленне варожасці ў чалавечым грамадстве, вялікая павага да асобы як носьбіта мудрасці і душэўных каштоўнасцей — вызначальныя рысы твораў Коласа і Метэрлінка.

Іх прарочы погляд праз стагоддзі ў будучыню засцерагае людзей ад неабдуманых учынкаў. Толькі праз згоду і мір магчыма шчасце. Менавіта ў гэтым заключаецца філасофія абодвух аўтараў, якая праз прызму сучаснасці набывае ўсё большы сэнс.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ,**
**студэнт філфака Брэсцкага дзяржуніверсітэта**

# ПРАДВЕСНІК БЕЛАРУСКАГА АДРАДЖЭННЯ

Прыдбалі б гэтую кніжку з задавальненнем многія з тых, каго цікавіць гісторыя беларускай літаратуры, а калі шырэй — нацыянальнага прыгожага пісьменства, ды, на жаль, наклад яе мізэрны, усяго сто паасобнікаў. Таму давядзецца большасці чытачоў карыстацца бібліятэкамі. А што яны зазірнуць туды, сумнявацца не даводзіцца, бо кніжка вартая таго, каб з ёй бліжэй пазнаёміцца — "Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры". Змест жа зборніка склалі, як сведчыць анатацыя, "навуковыя і навукова-папулярныя матэрыялы Рэспубліканскай навуковай канферэнцыі, прысвечанай 150-годдзю выдатнага паэта-дэмакрата", а праходзіла гэтая канферэнцыя, як вядома, 25 мая 2001 года ў Мінску.

Адкрываецца кніга ўступным словам дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Уладзіміра Гніламёдава (у канцы зборніка змешчаны кароткія звесткі пра аўтараў), які зазначае, што творчасць Я. Лучыны "засведчыла, як паступова з масы вылучаецца асоба. Застаючыся ў многім яшчэ масавай, яна сцвярджала новыя крытэрыі духоўнага свету чалавека і яго самасвядомасці. Светаўспрыманню аўтара "Вязанкі" ўласцівая была тая наіўная цэласнасць асобы, якая не ведала рэзкага супрацьстаўлення свету і чалавека, цела і духа, пачуццёвасці і разумнасці. У гэтым сэнсе Я. Лучына — прадвеснік беларускага Адраджэння XX ст., прадвеснік Я. Купалы, Коласа, Багдановіча".

Уласна кажучы, матэрыялы канферэнцыі, а ў дадзеным выпадку кнігі, і раскрываюць шматграннасць творчай асобы аднаго з самых выдатных прадстаўнікоў таго перыяду беларускай літаратуры, калі нацыянальнае прыгожае пісьменства ўступала на шлях свайго станаўлення, а тыя, хто ў гэты час творча працаваў, не толькі самасцвярджаліся як творчыя індывідуальнасці, а і праторвалі дарогу наступнікам.

Наколькі аўтары зацікаўлена падыходзяць да прадмета гаворкі, як імкнуцца спасцігнуць сутнасць праблемы ў розных яе аспектах, відаць нават па назвах публікацый: "Беларускасць у творчасці Янкі Лучыны" Любові Уладыкоўскай-Канаплянік, "Міфалагічныя і біблейскія матывы ў творчасці Янкі Лучыны" Уладзіміра Конана, "Янка Лучына — лірык" Алеся Яскевіча, "Беларускія пісьменнікі XIX стагоддзя: калектыўны партрэт на фоне Эпохі" Генадзя Кісялёва... А Вячаслаў Рагойша, роўнага якому сёння на Беларусі няма ў веданні тэорыі літаратуры і асабліва вершаскладання, глыбока раскрыў такі аспект, як "верш у полілінгвальнай спадчыне Янкі Лучыны".

З задавальненнем знаёмішся і з матэрыяламі Уладзіміра Мархеля "Аўтарэмінісцэнцыі ў творчасці Янкі Лучыны" і "Пытанні атрыбуцыі ў лучыназнаўстве". Менавіта дзякуючы У. Мархелю творчая спадчына Лучыны прыйшла да сучаснага чытача ў найбольш поўным аб'ёме, калі ў 1988 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла светкніга "Творы", да якой ён напісаў прадмову, пераклаў польскамоўныя творы, зрабіў каментарыі. І гэтым разам даследчык уражвае аргументаванасцю сваіх разваг, здатнасцю прыадкрываць асобныя з тых таямніц, што па сённяшні дзень існуюць у дачыненні да аўтара "Вязанкі".

Сярод аўтараў і замежныя даследчыкі: польскія Алесь Баршчэўскі ("Паэзія Неслухоўскага ў кантэксце польскага пазітывізму") і Юрась Гарбінскі ("Янка Лучына ў эпісталярыях Адама М-скага"), а таксама Аляксей Каўка з Масквы ("Сігнал вечнасці"), а гэта яскрава сведчыць аб тым, што Лучына адносіцца да тых пісьменнікаў, якія, належачы канкрэтнай літаратуры, сваёй прысутнасцю не абмяжоўваюцца толькі яе межамі, бо ў творчасці закраналі праблемы агульначалавечага зместу. Таму ёсць спадзяванні, што з цягам часу ў лучыназнаўстве з'явяцца новыя старонкі і будуць яны напісаны не толькі нашымі літаратуразнаўцамі. Тым самым кніга "Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры" абяцае працяг.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Адам ГЛОБУС**



# ЛІРЫКА

## *Мінск і Вільня*

*У Вільні снег. У Вільні цішыня.*
*У Вільні ўтульна і выдатна спіцца.*
*Мне Беларусь зайсёды ў Вільні сніцца*
*заможная, свабодная, мая...*

*У Мінску дождж. У Мінску мітусня.*
*У Мінску тлумна і няма спакою.*
*Тут не знаходзіш згоды сам з сабою.*
*Ды толькі ў Мінску на Радзіме я.*

## Дыктоўка

*Блакітныя анёлы*
*блакітнымі алоўкамі*
*пісалі пад дыктоўку*
*пра цэрквы і касцёлы,*
*пра залатыя свечкі...*
*Усявышні надыктоўваў*
*ім беларускай моваю*
*кароткі верш пра вечнасць.*

## Вершы

*Калі без розніцы*
*з кім піць і з кім гуляць.*
*Калі ўсё роўна*
*хто пазычыць грошы...*
*Не дай мне Бог*
*такой дурной раскошы*
*Лепш у самоце*
*вершы паскладаць...*

## Партрэты

*Намалюю твой партрэт*
*тушшу на шпалеры,*
*весялейшы стане свет*
*у пустой кватэры.*

*У кахання ёсць сакрэт —*
*упрыгожваць побыт.*
*Напішу аўтапартрэт*
*і пастаўлю побач.*

## Таня

*Мне доўгае расстанне з Таняй*
*чарнейшае за чарнату.*
*Пусцейшае за пустату*
*мне доўгае расстанне з Таняй.*
*Гарэлкай лекую бяду,*
*пішу, чакаючы спаткання:*
*"Мне доўгае расстанне з Таняй*
*чарнейшае за чарнату".*

## Інтэрнэт

*У інтэрнэтных нетрах*
*сябра я шукаў...*
*Не спаў, чакаў*
*у інтэрнэтных нетрах.*
*На ўскрайку інтэрнэтнай апраметнай*
*я на экране словы напісаў:*
*"У інтэрнэтных нетрах*
*сябра я шукаў..."*

## Кола

*Пойдзеш на захад*
*і прыйдзеш на ўсход.*
*Рушыш на поўдзень,*
*а зайдзеш на поўнач.*
*Кола замкнёнае.*
*Ясная поўня*
*зманліва кліча*
*ў бясконцы паход.*

## Сунічка

*Мая вясковая дурнічка,*
*мая ружовая сунічка,*
*люблю цябе за грэшны смех*
*і за найсаладзейшы грэх.*

## Мур-мур-мур

*Ты любіш цацкі і бразготкі.*
*Ты муркаеш, нібыта котка.*
*Мяне ты любіш перад сном*
*паказытаць сваім хвастом.*

## Берэт

*Ты ходзіш па дыяганалі,*
*а я хаджу папросту.*
*Мы налівалі, выпівалі*
*на мосце і пад мостам.*

*Берэт у рэчку выкідалі*
*адным шырокім жэстам.*
*Берэт наш хваля цалавала,*
*як жаніха нявеста.*

## Ты і я

*Напісаў для цябе: пра Парыж,*
*пра жывыя і мёртвыя грошы,*
*пра самоту і бацькаўскі крыж...*
*Я — харошы.*

*Напішу для цябе: пра любоў*
*да гарэлкі, пра водар раскошы*
*пацалункаў, пра вершы Лі Бо...*
*Я — харошы.*

*Ты напішаш мне словы ў адказ:*
*пра малюска, хваробу, адрошанасць,*
*пра Берніні, Тэрэзу, экстаз...*
*Ты — разумная й надта харошая.*

## Агонь

*Экзістэнцыйныя настроі:*
*я вылучыў сябе з сябе,*
*пераназваў і перакроіў,*
*цяпер жыву нібыта ў сне.*

*Навокал: ватнае бяссілле*
*і павуціннне глухаты.*
*Агонь мігціць зялёна-сіні*
*на дне душэўнай пустаты.*

## Наказ крыжаносцу

*Не лі гарэлку ў кока-колу.*
*Пі так. А лепш не пі зусім.*
*Будзь мужны. Не хадзі па колу.*
*Найпрост ідзі ў Ерусалім.*

*Цябе чакае Вечны Горад*
*пад крыжам светла-залатым.*
*Загіне здраднік, згіне вораг —*
*аддзячыць Богу зможаш ты.*

**Ніяна ЗАГАРЭЎСКАЯ**

## Колеры году

*Настрой такі — нібыта не вясна,*
*нібыта зноў прыйшла нудота-восень,*
*гляджу на каляндар, і лічба "восем"*
*мне кажа: сакавік. А не пазнаць*
*праз мітусню пачатак харашства,*
*зрывае вецер жаваронка песню,*
*і сонечны прамень зусім не весні,*
*адно таю — што снег зусім растаў...*

***

*Залацісты сад*
*хмурыцца ў журбе.*
*Не прыйду назад,*
*не вярну цябе.*
*Восень, спавуцінь*
*дзён маіх нуду.*
*Хмары засяць сінь,*
*цёплае крадуць.*
*Ці сагрэеш ты*
*сонейкам мой сад?*
*Ападуць лісты,*
*пройдзе ліставпад...*

***

*Адлятае лета, адлятае.*
*"Ці ідзеш ты, восень?" — я пытаю.*
*Цішыня. Маўчанне цісне скроні,*
*толькі парадчэла дуба крона,*
*толькі пажаўцелі ў лузе травы,*
*толькі клопаты ў людзей ды справы.*
*Прыязджанцы паўцякалі з вёскі,*
*Лес шуміць былога адгалоскам...*
*"Восень, дзе твае шляхі-дарогі?" —*
*жоўты ліст самотна лёг пад ногі.*

## Лёсу хвалі

***

*Пабілі бераг лёсу хвалі —*
*падсечаныя берагі.*
*Гады найлепшае схавалі*
*ў бяздонны час мае тугі*
*З адхону — чорнае вірышча,*
*ды сёння — хвалі ў цішыні,*
*над лёсам іншым вецер свішча,*
*ён іншыя скрадае дні.*
*Іду. Пяшчоцяць хвалі бераг,*
*нястрымна час уперад мкне.*
*Замест тугі — у сэрцы вера,*
*што выратоўвае мяне.*

***

*Новы ранак расой заблішчыць,*
*потым сонца схіляецца долу —*
*зноў у сэрбранай песні начы*
*выяўляецца заўтрашні золак.*
*Час ляціць у быццё, небыццё,*
*пакаленні змяняе, эпохі.*
*Прыляцеў, азірнуўся і ўцёк —*
*пуцявіны парослыя мохам.*
*Што аднойчы было — будзе зноў,*
*будуць дзеяць, што й дзеялі людзі,*
*толькі, можа, у нашых сыноў*
*песня новаю, вольнаю будзе.*
*Літасць Неба пральецца на нас,*
*каб засвоілі ісціны ўрокі.*
*І тады ў светлай вечнасці час*
*запаволіць імклівыя крокі.*



# МІЛІЦЫЯНЕР ЗА КАДРАМ...

аповеды з новай кнігі

**Віктар ПРАЎДЗІН**

## ЯК Я СТАЎ МІЛІЦЫЯНЕРАМ

У адзін са спякотных майскіх вечароў 1976 года я стаяў на палубе малога супрацьлодачнага карабля пад нумарам 136 і назіраў, як разамлелы чырвоны сонечны дыск няспешна, нібы пад прымусам, ціснецца да вады і паволі хаваецца за марскім даляглядам. На моры поўная бязветрыца, ніводнай хвалі, і ад гэтага здаецца, што сонца нехта сілком цягне ў марское бяздонне.

У мяне, старшага матроса Ваенна-Марскога Флоту СССР, самотна і трывожна на душы. Я ведаю, што менавіта там, дзе хаваецца сонца, доўгачаканая зямля, па якой больш за ўсё сумуюць ногі. Мне да няўсцерпку хочацца адчуць пад сабой нават не траву, а хоць бы каменьчыкі ці гарачы бетон на пірсе, дзе звычайна швартуецца наш карабель.

Самота ж ад таго, што я – "гадок", па-вайсковаму – "дэмбель", і па вяртанні на базу, праз месяц-другі, апошні раз сыду з карабля. Дзеля гэтай важнай падзеі "карасі" па даўняй завядзёнцы накрыюць трап белымі прасцінамі, што не робіцца нават пры сустрэчах-праводзінах галоўнакамандуючага. Апошні раз адаб'юць склянкі — і буду я вольны. Менавіта гэта і трывожыць, бо тры гады – тэрмін немалы, абрыдла карабельнае жыццё, але што рабіць на волі?

Не надта ласкавае Балтыйскае мора пераканала у тым, што Зямля — жывая, і мне зусім не хочацца па вяртанні дома зноў брацца за рычагі меліярацыйнага экскаватара ЭТЦ-202 і паласаваць яе, родную, пракладваючы дрэнажныя трубы.

У руках узятая ў карабельнай бібліятэцы кніжка Віля Ліпатава "Сяржант міліцыі", гэта яшчэ адна прычына майго смутку і наватгнеўу. Я ўзрушаны тым, як галоўны герой ставіцца да выканання службовых абавязкаў, як ён, рызыкуючы жыццём, затрымлівае злачынцаў і лічыць гэта звычайнай справай. А вось паводзіны маці ягонай жонкі абураюць, і не таму, што яна – цешча, а таму, што міліцыянер для яе – чалавек з іншага цеста, і не надта якаснага... Менавіта ліпатаўская цешча з "Сяржанта міліцыі" пасля дэмабілізацыі і прывяла мяне ў кабінет начальніка Шаркаўшчынскага РАУС.

Фёдар Фёдаравіч Лятко – чалавек маўклівы, маладжавы, высокі й трошкі сутулы. Строгі мундзір і маёрскія зорачкі на пагонах робяць яго старэйшым, а штохвілíннае "так-так" наводзіць на думку: ён наперад ведае прычыну майго візіту.

Адчуваю сябе ўпэўнена, лічу ідэйна падрыхтаваным да размовы, усё ж за апошні месяц перачытаў і законспектаваў у агульным тоўстым сшытку пад чорнай вокладкай даклад Брэжнева на апошнім з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

Лятко не перапыняе, слухае і сваім "так-так" падбадзёрвае. Калі мая ўзнёслая прамова пра барацьбу са злачыннасцю скончылася, Фёдар Фёдаравіч, хаваючы ўсмешку, суха сказаў:

— Ведаю, Праўдзін, тваіх бацькоў. Добрыя людзі. І пра цябе чуў... Да войска ты шалапутны быў... Параіцца трэба. —- Ён набірае нумар тэлефона і коратка загадвае: — Зайдзі.

Праз хвіліну ў кабінет, як віхор, урываецца Мікалай Іванавіч Ігнатовіч, капітан міліцыі, нам паліт аддзела і мой даўні знаёмы. Рымскі профіль, ганарліва ўскінутая галава, быстрыя пранізлівыя вочы, усё той жа заліхвацкі кучаравы чуб, і толькі на жываце кіцель ужо цеснаваты. Хто-хто, а нампаліт, які жыў па суседстве, на вуліцы Скарыны, пра маю шалапутнасць ведаў усё ці амаль усё.

Убачыўшы мяне, Ігнатовіч нечакана ўзрадаваўся, чым відавочна здзівіў Лятко, і адразу, быццам не трэба раіцца, а ўсё ўжо даўно вырашана, настойліва прапанаваў:

— Праўдзін, калі адслужыў у сваім флоце, давай да нас, у міліцыю!.. Мы табе адразу матацыкл выдадзім, а калі ажэнішся – кватэру...

— Мне б спярша павучыцца, — пачуўшы пра жаніцьбу, разгублена прамармытаў я. – Хачу у Мінскую сярэднюю школу міліцыі...

— Не хочаш кватэру – не трэба, – пасміхнуўся Ігнатовіч і, па-кампанейску ляпнуўшы мяне па плячы, сур'ёзна патлумачыў: — Нашто вучыцца ў сярэдняй, калі ёсць вышэйшая?.. Толькі ў гэтым годзе ты нікуды ўжо не паспееш, экзамены вось-вось пачнуцца. Гэта табе не цывільная ВНУ: дакументы збіраюцца загадзя, яшчэ на пачатку года... Так што пішы рапарт, папрацуй міліцыянерам, а на наступны год мы цябе самі накіруем... Канешне, пры ўмове, што па службе заўваг не будзе.

З аддзела я не выйшаў – вылецеў, быццам крылы выраслі. На вуліцы дыхнуў свежага паветра і, ухваляючы сябе за кемлівасць, узмакрэлай ад хвалявання далонню правёў па шурпатай чорнай вокладцы канспекта з цытатамі генеральнага сакратара. Я быў перакананы, што толькі гэты сшытак зрабіў патрэбнае ўражанне і на Лятко, і на Ігнатовіча. Зрэшты, якое ўражанне мог зрабіць мой рыжы чуб і звычайны профіль?

Рамантык! Я і ўявіць не мог, што пройдуць гады, і мне давядзецца выпісваць у Мінскім абласным ваенкамаце адрасы "дэмбеляў" і ездзіць па вёсках, агітаваць хлопцаў на службу у мінскай міліцыі (тады мінчане неахвотна, а дакладней, амаль не ішлі працаваць у міліцыю), буду, як той Ігнатовіч і Лятко, абяцаць і вучобу, і кватэры, і залатыя горы! Канешне, пры ўмове добрай службы. Не мог я ўявіць і таго, што праз колькі гадоў сустрэнуся ў шпіталі з начальнікам Сенненскага РАУС падпалкоўнікам Ігнатовічам, маім некалішнім міліцэйскім "хросным" бацькам, і ён прызнаецца, што цяжка хворы. Мы вып'ем пляшку лімоннага лікёру, а праз нейкі час у газеце „На страже Октября" з'явіцца некралог па Мікалаю Іванавічу Ігнатовічу.



## ФОРМА

Нявыкрутка атрымалася з міліцэйскай формай, якую я ў двух мяхах прытарабаніў дадому з Віцебска, але на службу яшчэ больш месяца прыходзіў у цывільным. Гэта вельмі злавала нампаліта Ігнатовіча, які той жа час залічыў мяне ў парушальнікі дысцыпліны.

— Форму атрымаў? – пры кожнай сустрэчы строга пытаўся Мікалай Іванавіч.

— Атрымаў.

— Чаму не носіш?

— Перашываю, памер не мой.

— Навошта браў? – дапякаў Ігнатовіч і, калі нехта быў побач, заўсёды ставіў на від.

Першы раз я паспрабаваў даказаць, патлумачыць, што ў мяне памер грудной клеткі — сто дзесяць сантыметраў, а ў таліі — толькі шэсцьдзесят пяць. Розніца велізарная: калі кіцель добры ў пузе, то не налазіць на плечы, а калі добры ў плячах, то паўметра матэрыі трэба забраць ад пуза. Пра штаны зусім маўчаў, бо мог абедзвюма нагамі слізгануць у адну калашыну і не заўважыць. З усёй атрыманай формы па мне былі толькі шапка, фуражка, бацінкі ды ялавыя боты з анучамі. Каб не выглядаць пудзілам, я аднёс форму ў атэлье на перашыў.

Існуе такі тэрмін, як "нестандартная фігура", і напэўна, я па тым часе якраз падыходзіў пад гэтае вызначэнне, але ж матэрыю міліцыянеру для індывідуальнага пашыву ніхто не даваў. Калі-нікалі атрымоўвалі сышчыкі ці следчыя, і то з вялікай цяжкасцю, асабліва ў гэткай глыбінцы, як Шаркаўшчына.

Зрэшты, мінулі гады, і я стаў, як усе, стандартным, форму ўжо не перашываў, памеры грудной клеткі і таліі ідэальна сышліся. А гэты выпадак я ўзгадаў адно таму, што нампаліт Ігнатовіч неяк сказаў:

— Віктар, калі ты на цэлым складзе не падабраў форму, калі ты не змог для сябе зрабіць гэткую дробязь, то што ты зможаш зрабіць для людзей?

## ПАХ ГАЗЫ

У сямідзесятыя гады ў Шаркаўшчыне жыў малодшы брат славутага беларускага пісьменніка. Ён насіў шкіперскую барадку, любіў, каб да яго звярталіся па бацьку – Паўлавіч. У блізкім асяродку, асабліва пад чаркай, сам сябе называў Падлавічам. Працаваў Паўлавіч у раённай газеце "Кліч Радзімы" і слыў чалавекам вядомым.

Мы ведалі адзін аднаго і былі ў даволі добрых адносінах, здаралася і чарку разам бралі. Але, як часцяком бывае, адносіны паміж людзьмі псуюцца, асабліва калі адзін з іх міліцыянер і, хоча ён таго ці не, але службовыя абавязкі выконваць павінен. Менавіта мае службовыя абавязкі і сталі прычынай разладу.

Жыў ён з жонкай і сынам у двухпавярховым васьміквартэрным доме побач з аўтавакзалам. Паўлавіч любіў (можа, і занадта) гарэлцу, і, канешне, яна была прычынай частых сямейных звадак. З маўклівай згоды раённага начальства і міліцыя, як кажуць, "на тармазах" спускала, не давала ходу скаргам жонкі журналіста.

Але, калі чарговы раз на сямейную зваду прыехаў Праўдзін і ўбачыў, як п'яны Паўлавіч з запалкамі ў руках, быццам звар'яцелы, бегае па кватэры, выбягае на агульны калідор і крычыць, што падпаліць сябе і ўсіх, прыйшлося прымаць рашучыя меры. Гэта была не пагроза, а рэальнасць, бо Паўлавіч абліў сябе газай, і заставалася толькі чыркнуць запалкай.

Чалавек у форме стаў апошняй кропкай у прыняцці рашэння, бо, убачыўшы міліцыянера, ён крыкнуў, каб вінаватай у ягонай жахлівай смерці лічылі жонку, і чыркнуў запалкай па карабку. Агонь мільгануў і адразу ж патух, але і гэтага хапіла, каб суседзі кінуліся па сваіх кватэрах.

Другую запалку ён выцягнуць не паспеў: я выбіў карабок, паваліў Расціслава на лесвічную пляцоўку і закруціў рукі за спіну. Потым звязаў затрыманага рамянём, які выцягнуў з ягоных жа штаноў, і даставіў у аддзел. Канешне, у той сітуацыі я павінен быў скласці пратакол, хоць бы за дробнае хуліганства. (Для тых, хто засумняваецца ў маім аповедзе, паведамлю, што ў тыя гады міліцыянеры складалі пратаколы нараўне з афіцэрамі.)

А потым у мяне пачалося блуканне па начальніцкіх кабінетах, бо скончылася гэтая гісторыя тым, што Расціслаў Паўлавіч, вядомы ў раёне чалавек, напісаў скаргу начальніку Віцебскага Упраўлення ўнутраных спраў ажно на васьмі старонках на "неправамоцныя дзеянні малодшага сяржанта міліцыі Праўдзіна". Праўда, мой начальнік Фёдар Фёдаравіч Лятко за мяне заступіўся і ходу гэтай скарзе не даў. Ён выклікаў мяне і ў прысутнасці Расціслава Паўлавіча паўшчуваў, што не трэба было мне на вачах суседзяў валіць на падлогу і тым зневажаць вядомага на ўвесь раён чалавека. У сваё "апраўданне" я папрасіў Расціслава Паўлавіча, каб ён, калі зноў надумае падпаліць сябе, рабіў гэта не ў кватэры, не ў доме, а за Шаркаўшчынай, у полі, лепш за ўсё па дарозе на калгас "Вялікае сяло". Там ёсць дзе разгуляцца і, галоўнае, нікому не нашкодзіш...

На тым усё і скончылася. Потым мы сустракаліся пры розных абставінах, але пра выпадак з запалкамі не ўспаміналі, быццам тое і не было. Аказалася, што ў гэтай гісторыі больш за ўсё пацярпела мая маці, якой давялося не адзін раз мыць маю прапахлую газай форму. Толькі пах гэты трымаўся вельмі доўга, і нават цяпер, калі яго чую, адразу ў памяці ўсплываюць далёкія сямідзесятыя і Расціслаў Паўлавіч.

## «ЛЫСАЯ» ШАРКАЎШЧЫНА

У Шаркаўшчынскім аддзеле міліцыі працаваў Васіль Войтаў. Ён быў невысокі, хударлявы, на бледным твары заўсёды быццам прыклееная ніякаватая ўсмешка, на пагонах – сяржанцкія лычкі. Жыў Васіль на раёне, але ў якой вёсцы, цяпер не прыпомню. Сярод іншых міліцыянераў нічым не вылучаўся, але меў незвычайнае, а можа, і прафесійнае хобі.

Тады яшчэ ўсіх пакараных судом за дробнае хуліганства на пятнаццаць сутак, як прынята было гаварыць, абалваньвалі – стрыглі пад нуль, налыса. Васіль вельмі любіў быць цырульнікам і крыўдаваў, калі нехта іншы з міліцыянераў абстрыгаў "сутачнікаў". На свае выхадныя, здаралася, нават хаваў машынку. Зрэшты, для ўсіх міліцыянераў абавязак цырульніка – лішні клопат, і ўсе мы ў гэтым спадзяваліся на Васіля. Нават аператыўныя дзяжурныя глядзелі скрозь пальцы на неабстрыжаных "жыхароў" аддзела, ведалі, што, як толькі з'явіцца Войтаў, санапрацоўку пройдуць усе. Любіў Васіль, як ён сам казаў, "чысціць людзям галовы".

Цяпер лысы – самы "піск моды", а ў тыя гады "піскам" лічыліся доўгія валасы. Абалваніць Васіль чарговага хуліганістага маладзёна, пагладзіць па-бацькоўску па лысай галаве і заўсёды скажа: "Цяпер цябе, забіяку-хулігана, здалёк відаць! Памятай пра гэта..."

А потым Васілю прысніўся сон, які ён расказваў кожнаму з нас і ўсё дапытваўся: "Што б гэта значыла?.."

А прыснілася яму, што выйшаў закон, па якім міліцыя павінна стрыгчы "пад Катоўскага" усіх, хто зрабіў нешта кепскае ці яшчэ толькі збіраецца.

— Мяне, — расказваў Васіль, — у сне наш начальнік Лятко паставіў на пост каля маста праз Дзісёнку. Зразумела, што гэта самае лепшае месца, бо мост адзін, па ім усе ідуць. Пісталет забраў, а замест яго выдаў электрычную падстрыжачную машынку. "Наводзь, — кажа, — Войтаў, парадак. Зрэшты, прыйшоў твой час". Я і рады старацца, шчырую без адпачынку і выхадных, радуюся, што нарэшце ўрад зразумеў, як можна перамагчы злачыннасць. А праз колькі дзён убачыў, што стрыгчы няма каго – уся Шаркаўшчына лысая! Убачыў і спужаўся, бо зразумеў, што застаўся без работы... І не толькі я...

Вось такі быў Васілёў сон. А праз пэўны час стрыгчы "сутачнікаў" забаранілі, і капітан С. сказаў Войтаву: "Ты, Васіль, пра свае сны больш нікому не расказвай. Бачыш, якая нявыкрутка атрымалася: наверсе дачуліся, як ты збіраешся перамагчы злачыннасць, і ўраз дапетрылі, што па тваёй міласці іх таксама абалваніць могуць!"

# У ЭФІРЫ — БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

На першым нацыянальным канале ў панядзелак у "Радыёфакце" ў рубрыцы **"Кола часу"** Навум Гальпяровіч раскажа пра слаўных сыноў Бацькаўшчыны.

У **аўторак** — аўтарская праграма **"Брама"**. І праз своеасаблівую браму для слухачоў выйдзе паэтка **Ірына Дарафейчук**. Гутарку з ёй Навум Гальпяровіч павядзе пра жыццё і літаратуру, пра старажытны Полацк. Прагучаць вершы Ірыны і водгукі пра яе творчасць спецыялістаў і чытачоў. Пачатак праграмы — у **22.30.** У гэты ж час у сераду Святлана Шаліма ў сваёй праграме **"Авансцэна"** звернецца да постаці **Уладзіслава Галубка.**

А ў чацвер у **22.30** разнастайнымі фарбамі зайграе праграма Галіны Шаблінскай **"Палітра"**. Тутслухача чакае нямала цікавых рубрык.

**"Сентыментальнае паляванне"** Ірыны Шаўляковай разгорнецца ў гэты ж час у пятніцу. Разам з ёй у "паляванні" будуць удзельнічаць **Алесь Пашкевіч** і **Вольга Куртаніч.**

Сустрэча з паэтам **Анатолем Аўруціным** чакае слухачоў у суботу, у блоку **"Жывы гук"**, які пачнецца ў **16.15**. У гэты ж дзень, а таксама ў нядзелю прагучаць навіны літаратуры ў **"Літаратурным праспекце"** і ў **"Кнігарні"**. У праграмах **"Суботні радыёвяж"**, **"Беларускі альбом"**, **"Радыёпарк"**.

Кожны дзень, акрамя выхадных, пачынаючы з панядзелка, — **"Кароткія гісторыі"**. Прагучаць у перакладзе на беларускую мову апавяданні **Вірджыніі Вульф, Генрыка Сянкевіча**, з кнігі **"Шляхціц Завальня" Яна Баршчэўскага і іншыя. Пачатак у 00 гадзін.**

Канал **"Культура"**. Ранішні інфармацыйна-публіцыстычны блок прэзентуе **"Хвіліны паэзіі"**, а з **10.00** раніцы — **"Клуб дамаседаў"**. У ім, у панядзелак — **"Чорны замак Альшанскі"**. Працяг чытання твора У. Караткевіча. У **17.00** — з фондаў радыё — **"Паэт і кветкі"**. Музычны вечар паэта **Л. Дранько-Майсюка.** У аўторак — у **14.10** — літаратурная праграма з блоку **"Сімфонія дня"** з Галінай Шаблінскай. У сераду — **"Клуб дамаседаў"** і **"Натхненне"** В. Макарэвіча, у чацвер — з фондаў радыё — М. Маляўка, **"На прасторах жыцця"**, Г. Гарэцкі **"Успаміны пра брата"**, **"Звон вечаровы"** (духоўныя пошукі М. Цвятаевай). **Пачатак у 17 гадзін.**

У нядзелю пад рубрыкай **"Фонды радыётэатралам"** спектакль А. Астроўскага **"Позняе каханне"** і вершы Р. Тармолы **"Зорная пара"**. **Пачатак у 16 гадзін.**

**Н. К.**

# «ДЗЕЯ Ў СЛОВЕ»

12 лістапада ў вялікай зале Дома літаратара (Фрунзе, 5) адбудзецца вечарына-прэзентацыя новага літаратурнага выдання "Дзеяслоў".

У імпрэзе бяруць удзел аўтары першага нумара: Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Пісьмянкоў, Міхась Скобла; барды: Алесь Камоцкі, Лявон Тышкевіч, Дзяніс Лісейчыкаў, Алесь Дуко, а таксама стваральнікі "Дзеяслова".

Пачатак вечарыны — а 18-ай гадзіне. Уваход вольны.





***VII Міжнародны тэатральны фестываль "Белая вежа" ў гэтым годзе стаў адзіным маштабным тэатральным святам на Беларусі. Праводзіўся ён намаганнямі абласнога Савета, абласнога ўпраўлення культуры (вельмі зацікаўленага ва ўсім, што адбывалася на фестывалі), дырэкцыямі Брэсцкага тэатра драмы і музыкі і Брэсцкага тэатра лялек.***

# ДАКРАНУЦЦА ДА СВЯТЛА

## *Тэатральная «Белая вежа» ў Брэсце*

З 12 паказаных у драматычнай праграме спектакляў большасць былі створаны па класічных п'есах, астатнія таксама так ці інакш былі звязаны з класічнымі персанажамі. Магчыма, нехта скажа, што ў такой сітуацыі складана гаварыць пра надзённасць фестывальнага сюжэта. Аднак тэма пастановак, праблемы галоўных герояў і актуальнае сцэнічнае мысленне на пляцоўках "Белай вежы" даюць падставы для сур'ёзнай размовы пра сучаснасць.

У кожнай фестывальнай гісторыі самым важным і самым хвалюючым было пытанне пра жыццё і смерць — тое пытанне, што стае галоўным, калі мы разважаем пра сэнс жыцця. Найбольш востра яно было сканцэнтравана ў спектаклі "Маскарад" паводле драмы М. Лермантава ў пастаноўцы рэспубліканскага тэатра "Лучафэрул" з Кішынёва. Здаецца, рэжысёр Барыс Фокша змог бы такое ж Карасу спалучыў у сваёй пастаноўцы традыцыі турэцкага тэатра з сучаснымі сцэнічнымі метадамі. Тое, што мы пабачылі, было прасякнута адкрытым тэмпераментам, які нічым не стрымліваўся. Дзея, здаецца, не мела ніякага дачынення да афінскіх ускраін, як у Шэкспіра, і тое, што акцёры завяршаюць спектакль танцам сіртакі, было зусім нечаканым. Аднак, нарэшце, ці не ўсё роўна: перад намі адбывалася дзеянне накшталт КВЗэшных прыколаў, і ў гэткім шалёным кічы кожнае лыка было ў радок. Апошні эпізод "Сну", той самы, калі бадзяжная трупа рамеснікаў выступае са спектаклем, у любым сцэнічным вырашэнні абавязкова будзе ўдалым. Буйны нораў турэцкіх акцёраў тут атрымаў найбольш поўны выхад, яны ўзняліся на ўзровень адкрытай буфанады і зрабілі гэта шчодра і радасна.

вырашэнне выкарыстаць для любога іншага драматургічнага матэрыялу, і, сапраўды, кампазіцыя малдаўскага "Маскарада" выглядае вонкавай у стасунках з тэкстамі і ўзаемаадносінамі персанажаў. Аднак, з другога боку, калі не звяртаць увагу на дэталі, удаецца разглядзець алгарытм дзеі, яе сутнасць і зразумець логіку Лёсу, трапляючы ў пастку якога любы герой пачынае жыць і адчуваць па пэўных законах. Тэатр "Лучафэрул" у 60-я гады стварылі выпускнікі Шчукінскага вучылішча, і вахтангаўскія прынцыпы жывыя і плённыя тут і сёння. Журы, якое ўзначальваў доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі, аддало спектаклю Гран-пры фестывалю "Белая вежа — 2002".

"Жаночыя гульні" Р. Федзянёва ў пастаноўцы рэжысёра А. Лісаўца ў Кіеўскім тэатры драмы і камедыі, "Скокі смерці" паводле А. Стрындберга, створанага рэжысёрам В. Гульчанкаму Дзяржаўным тэатры Нацый (Масква), а таксама "Зорка" Г. Кайзара ў пастаноўцы Тэатра "К-2" з Вроцлава (рэжысёр Е. Ясінскі) былі паказаны на малой сцэне Брэсцкага тэатра драмы. Малыя формы найбольш актуальныя сёння на тэатры не толькі з прычыны недахопу матэрыяльных сродкаў, але і з-за мабільнасці малых акцёрскіх складаў, інтымнасці адносін выканаўцаў і гледачоў, што дазваляе зберагаць рэшткі сістэмы Станіслаўскага, — вызначаюць ступені акцёрскага майстэрства і сутнасць асобы акцёра, які рашаецца выйсці сам-насам з гледачамі. Гэта былі спектаклі з мностваам дыялогаў, у іх не выкарыстоўвалі ніякіх пластычных навацый, яны былі надзвычай спакойнымі, жарсці, здаецца, хаваліся ў самыя глыбіні дзеі, і акцёры рабілі ўсё магчымае, каб ніхто не здагадаўся пра самую сутнасць характараў. Сёння такога роду закрытасць — рэч вельмі рэдкая і ўсё ж дастаткова цікавая, бо зусім не выключана, што тэатр вернецца да такога спосабу існавання на фоне звыклага ўжо візуальнага багацця тэлеэкрана і дынамікі выяў камп'ютэрнага манітора.

Незвычайнасцю пастановачнай культуры ўразіла прадстаўленне Трабзонскага дзяржаўнага тэатра з Турцыі "Сон у летнюю ноч" паводле В. Шэкспіра. Мурат

Здаецца, самым класічным на фестывалі стаў спектакль Брэсцкага тэатра драмы і музыкі "Рэвізія" паводле камеды М. Гогаля "Рэвізор" у пастаноўцы Андрэя Бакірава. Цікавае вонкавае вырашэнне, строгая стылізаванасць, ансамблевасць акцёрскага існавання, характарнасць, сталасць выкладчыкаў у разуменні і вырашэнні кожнага вобраза, памяркоўнасць трактоўкі, яснасць выкладання сэнсу і разам з тым забаўляльнасць — усё гэта варта высокай ацэнкі і значнай павагі да работы тэатра. Сяргей Пяткевіч — Хлестакоў атрымаў прыз журы за лепшую мужчынскую ролю. Аднак, думаецца, пастаноўка магла б прэтэндаваць не толькі на такую адзнаку. Яна, сапраўды, выпучалася сярод іншых сваёй цэласнасцю, арганічнасцю і, яшчэ раз, чысцінёй класічнасці.

Класічнасць беларусаў і буфоннасць туркаў, строгая вытанчанасць малдаван, выдатны постмадэрнізм расіян у трактоўцы гогалеўскіх "Запісак вар'ята"... У спектаклі тэатра Нацый з Масквы "Чатыры ў нуль" (рэжысёр Генадзь Шапашнікаў, мастак Віктар Герасіменка) сцэнічная канструкцыя ўяўляе сабой надзвычай прыгожую клетку, зробленую з чыгунных агароджаў, што трансфармуецца, мяняе фрагменты, двайца ў шматлікіх люстраных праёмах. Уся яна запоўнена ворахам папер, якія паводкаю запаланяюць ледзь не ўсю прастору ў клетцы. Героі пераадольваюць супраціўленне папяровай плыні. Халаднаватыя, вельмі стыльныя спектаклі створаны ў еўрапейскай традыцыі вонкава бліскучых сцэнічных пастановак, атрымаў прыз за сцэнічны эксперымент у сцэнаграфічным вырашэнні твора.

Надзвычай эксперыментальным, нават рызыкоўна эксперыментальным аказаўся "Вішнёвы сад" тэатра "Міхая Эмінэску" з Баташанаў, што ў Румыніі. Вытрымаўшы спектакль у строга чорна-белай гаме, пастаноўшчык І. Бардзяну вельмі вольна абышоўся і з Шарлотай, і з Гаевым, які беспарынна п'е і пастаянна забягае за кулісы "адліць", і з дуэтам Дуняшы і Яшы, і з Епіходавым, і з Лапахіным... Пашчасціла тут, здаецца, толькі адной Раneўскай, жанчыне даволі сталай і, пэўна, ужо не зацікаўленай ў рызыкоўных гульнях астатніх.

Эксперыментальным выглядала і вырашэнне "Калігулы" паводле А. Камю ў пастаноўцы Вітаўтаса Грыгалюнаса ў Нацыянальным рускім тэатры імя М. Горкага з Мінска. Дзею п'есы перанеслі ў асяроддзе байкераў, і на сцэне бліскуча былі прадэманстраваны лепшыя ўзоры іхняй субкультуры. Праўда, да логікі ўзаемаадносін імператара і яго сяброў гэта, як высветлілася са спектакля, асабліва дачынення не мела: так, фон, не болей, а шкада! Думаецца, распрацоўка драматургічнага матэрыялу для набліжэння яго да сённяшняга маладзёжнага асяроддзя была б дарэчы і надала б пастаноўцы вастрыню. У "Калігуле" даследуюцца паводзіны чалавека, што апынуўся ў трагічных абставінах, у жыццёвым крызісе, страціўшы каханне. Калігула выбірае самы страшны шлях выхаду з жыццёвага тупіка: ён знішчае ўсё і ўсіх навокал. Фінал выходзіць яшчэ больш трагічным: ён разумее, што гэта быў шлях у нікуды. Ці магчыма для Калігулы (маецца на ўвазе персанаж спектакля, а не гістарычная асоба) пазбегнуць пакарання? І ці ёсць наогул выхад з ягонага тупіка? Самагубства ж толькі памнажае ягоных злачынстваў. І ці існуе выйсце для Калігулы? Пытанні вельмі балючыя і значныя. На жаль, у спектаклі на іх не адказалі, як не закранулі шматінішых праблем.

Канцэнтрацыяй кахання і бясцэннасці жыццёвага імгнення стаў спектакль Рыжскага тэатра рускай драмы "Эдзіт Піяф. Мой легіянер" паводле К. Драгунскай у пастаноўцы Рамана Віцюка. Зроблены як перформанс асаблівага кшталту, заснаваны на музычнай партытуры, са спецыфічным фіналам, такім характэрным для Віцюка, спектакль уяўляе сабой узважаную майстрам структуру. Ён не дазваляе заставацца ў баку ад дзеі, зачароўвае вытанчанасцю, шчырасцю пачуццяў. А. Шкатаў, М. Корабаў і Н. Плотнікава (якая сама выконвае песні Піяф) ствараюць на сцэне прастору жывой рэальнасці сённяшняга жыцця і прастору віртуальнасці, дзе няма нічога больш рэальнага, чым праўда нашых пачуццяў, чым вышыні вялікай пяшчоты і вялікага кахання.

На сустрэчы пасля спектакля Ніка Плотнікава, якая атрымала прыз за лепшую жаночую ролю, сказала, што адчувае сувязь з Піяф, што яна не іграе вялікую спявачку і не імкнецца да падабенства ў вобразе, яна проста іграе падобную сітуацыю, і ёй здаецца, што недзе Там сапраўдная Піяф адчувае цеплыню гэтага дачынення.

Думка пра цеплыню дачынення падалася слушнай і ў спектаклі Альгірдаса Лацэнаса "Маёй душы нязмоўклыя струны" паводле вершаў Сяргея Есеніна. Вобразы паэтаў пачатку XX стагоддзя (Есеніна, Маякоўскага, Бурлюка, Хлебнікава, Севяраніна) паўсталі надзвычай яскрава ў прасторы, што стварыў сваёй страсцю і брутальнай сілай Лацэнас. Рэжысёр перадаў атмасферу тэатраў-кабарэ той эпохі і тых вечароў, што Есенін бавіў з Максімам Горкім у вакзальных рэстарацыях сярод аркестрыкаў і цыганскай вольніцы. Лацэнас склаў кампазіцыю так, што яна ператварылася ў монап'есу, дзе з вострай відавочнасцю паўсталі ўсе ступені трагедыі паэтавай душы.

Здаецца, усё было ў сёлетняй праграме "Белай вежы": і страсць, і смех, і жорсткае сістэмнае мысленне. Веліч Тэатра, як купал, нависала над намі, і шчасце перажывання зноў і зноў кранала нервы і давала ўсведамленне таго, што Тэатр — гэта ўвесь свет, а акцёрам дадзена, як медыумам, прапускаць існасць праз сябе і дарыць магчымасць і нам дакрануцца да святла.

**Таццяна КАТОВІЧ,**
**тэатральны крытык**

*НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакляў "Эдзіт Піяф. Мой легіянер" і "Жаночыя гульні".*





# Віталь КАТАВІЦКІ: «ПАЧУЦЦЁ ІМПРАВІЗАЦЫІ АМАЛЬ НЕЗНАЁМА БЕЛАРУСКАМУ ТЭАТРУ...»



*У новым тэатральным сезоне Дзяржаўны маладзёжны тэатр адзін з першых запрасіў гледачоў на прэм'еру. Галоўны рэжысёр Віталь КАТАВІЦКІ паставіў спектакль "Страсці ў Віндзоры" паводле Шэкспіра. Пра новую пастаноўку, а таксама аб справах у тэатры рэжысёр расказаў аглядальніку "ЛіМа".*

**— Некалі рэжысёр Катавіцкі расказваў мне ў інтэрв'ю: "Я заўсёды стаўлю толькі тыя спектаклі, якія хачу паставіць у пэўны момант. Напрыклад, "Дзядзька Ваня" быў прадыктаваны каханнем да жанчыны. "Трызненне ўдваіх" уяўляе сабой своеасаблівае суміраванне ўсіх перажыванняў, звязаных з сямейным жыццём. Фарсы «Чорт выстаўлены аслом» — гэта абагулены погляд на жыццё". Цікава, а што цяпер падштурхнула вас да пастаноўкі?**

— Сёння мяне падштурхнуў да выбару п'есы не унутраны покліч, а матэрыяльная сітуацыя, якая склалася ў тэатры. У сувязі з тым, што зліквідавалі артыкул на пастановачныя выдаткі, тэатрам цяпер даводзіцца зарабляць грошы самім. І вось мы вырашылі, зыходзячы пераважна з меркантыльных інтарэсаў, зрабіць гэты сезон сезонам камедый. Але палічылі, што камедыя павінна быць абавязкова добрага аўтара. На мой погляд, Шэкспір — самы лепшы камедыёграф. Яго п'еса "Віндзорскія насмешніцы" пра любоў, аб пакаранні хамства. І ўвогуле, падзеі, персанажы як быццам з сённяшняга дня. Толькі калі сёння хам бярэ верх, то на сцэне ён пакараны, тут перамагае каханне. Думаю, што я знайшоў цікавую форму для спектакля — далікатную эклектыку. Сумясціў сучаснасць і старажытнасць.

**— Маладзёжны тэатр заўсёды лічыўся эксперыментальнай сцэнай. Ці будзе ў "сезоне камедый" месца для эксперыменту?**

— Адзін эксперымент вы ўжо бачылі — гэта "Страсці ў Віндзоры". Я лічу, што гэта эксперымент. Бо ў такой манеры — я называю яе "экшн" — вельмі цяжка іграць. Патрэбна імправізацыя, лёгкасць, хуткая рэакцыя. У нас акцёрская школа скіравана да прыземленага пражывання. Акцёрам у гэтым спектаклі вельмі складана іграць спектакль, бо немагчыма схавацца за дэкарацыі, там усё ўмоўна і гэтую ўмоўнасць трэба абыгрываць. У гэтай пастаноўцы я хацеў сумясціць сапраўднае пражыванне, імправізацыю ды ўмоўнае існаванне акцёра. На жаль, пачуццё імправізацыі амаль незнаёма беларускаму тэатру, калі адзін акцёр свабодна падхопліве жарцік другога, цікава абыгрывае незвычайныя сітуацыі. Здавалася б, такі просценькі спектакль — дзве дзеі, лёгкі сюжэцік, але ўсё гэта разыграць даволі складана. Лягчэй іграць доўгую, марудную трагедыю ці драму. Бо смяяцца артысту складаней, чым плакаць. І вось узнік такі эксперымент, калі на сцэне ўсё робіць толькі артыст...

**— Але на адну з галоўных роляў вы запрасілі зусім маладога акцёра, які вучыцца ў Беларускай акадэміі мастацтваў ды яшчэ на аддзяленні рэжысуры. Ці не рызыкавалі вы?**

— Вядома, рызыкаваў. Але акцёр Іван Шчатко, які іграе ў нас Фальстафа (дарэчы, ён вельмі падобны па фактуры да гэтага героя) — здольны чалавек. І я думаю, што яму ўжо трэба выходзіць са сцэнаў акадэміі, загартоўвацца ў спектаклях, спрабавацьсябе з прафесійнымі партнёрамі. Наогул у гэтым спектаклі шмат маладых акцёраў. Шынкара іграе таксама студэнт акадэміі Канстанцін Задворны, вобраз Фэнтана ўвасабляе Дзяніс Маісейчык — нядаўні выпускнік каледжа мастацтваў. Тут многа акцёраў, якія яшчэ не спрабавалі сцэну...

**— І вы задаволены імі?**

— Вядома, у мяне шмат заўваг. Але я бачу, што яны паціху набіраюць майстэрства, адчування гледача. І ў гэтым ім вельмі дапамагаюць сталыя акцёры.

**— Віталь, ужо другі сезон Маладзёжны тэатр мае іншы знешні выгляд: з'явілася невялікае фае, буфет, неабходная галерэя акцёраў. У тэатр прыйшоў новы дырэктар...**

— Усе змены, якія адбыліся тут, — гэта заслуга Віктара Старавойтава, з якім мы, на жаль, не хутка знайшлі паразуменне. Бо гэта вельмі цудоўна, калі галоўны рэжысёр і дырэктар тэатра разумеюць адно аднаго. Тэатр не можа без дырэктара і не можа без галоўнага рэжысёра. Без першага прыходзіць у заняпад гаспадарчы бок, без другога — трупа. Сколькі ў нас у Беларусі было і ёсць спробаў сумяшчаць гэтыя пасады — усе няўдалыя. Ніводнаму тэатру гэта не прынесла карысці. Таму я вельмі рады, што гэты дырэктар у нас ёсць. Ён сапраўдная знаходка для нас. У тэатры стала вельмі прыгожа, зала поўная разумным і дарослым гледачом, планы выконваюцца...

**Гутарыла В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

# ЭКСПЕРЫМЕНТЫ ВІТАЛЯ КАТАВІЦКАГА, альбо ЧАЛАВЕК ВЫСТАЎЛЕНЫ АСЛОМ

***...Тое, што ставіць апошнім часам рэжысёр В. Катавіцкі, — і прыгожа, і забаўляльна, і смешна. Відавочна, што рэжысёр імкнецца да таго, каб публіка ўпадабала яго спектаклі, пераважна адпачываючы. Праўда, павучальны змест фіналу пастаноўкі "Чорт выстаўлены аслом" вымушае гледачоў на імгненне схаваць усмешку, замерці ў цішыні патухлых агнёў рампы. Затое камедыя "Страсці ў Віндзоры" да самай апошняй мізансцэны выклікае ў публікі толькі адны станоўчыя эмоцыі.***

***Новыя спектаклі В. Катавіцкага аб'ядноўвае яшчэ адна заканамернасць: яны, на жаль, не дацягваюць да вышыні рэжысёрскай задумы...***

Спектакль "Чорт выстаўлены аслом", якім Маладзёжны тэатр адкрыў мінулы тэатральны сезон, мусіў зрабіцца тэатральнай сенсацыяй. Чатыры сярэднявечныя французскія эратычныя фарсы, якія рэжысёр В. Катавіцкі выбраў у якасці драматургічнага матэрыялу, адкрывалі чалавеку, што агоную душу можна цалкам перамяшаць з брудам. Гэта было сапраўды смелым, нечаканым выпадам у бок самаўпэўненага Чалавецтва.

...Маладзі муж сексуальна не задавальняе жонку; закаханы ў сябе нарцыс здраджвае сваёй даражэйшай палове; маладая дзяўчына шукае сексуальных забаваў за спіной старога мужа... Рэжысёр мусіць давесці, што звычайнае жыццё, у якім чалавек прызвычаіўся да падманаў, здрадаў, нахабства, з'яўляецца насамрэч агідным, непрыгожым. Услед за пісьменнікам-філосафам маркізам Дэ Садам В. Катавіцкі не хоча, каб людзі распусту. "Няшчасць, тым, хто акружае яе ружамі." У багатай выяўленчай палітры спектакля паўстаюць страшэнныя вобразы Босха — гэтага славутага нідэрландскага мастака і выкрывальніка жудасных чалавечых заганаў. Прынамсі, Чорт (І. Чарапко) прадстаўляецца на сцэне як адзін з яго фантасмагарычных абліччаў, як чалавек-птушка, якая ўзнімаецца з пекла на зямлю, каб заваладаць паболяй чалавечымі душамі. Музычныя ўрыўкі з "Карміны Бураны" К. Орфа ў аранжыроўцы Р. Манзарака якраз добра перадаюць імгненні палёту нячыстага над зямлёю.

Думка някепская — паказаць перадусім чалавека аслом, адмовіць "вянцу стварэння" ў веліччы ўчынкаў. Як вядома, раней фарсамі нашпігоўвалі містэрыі — драмы на біблейскія тэмы. Сёння рэжысёр нагадвае нам пра грэхападзенне, пасля якога на свеце не засталося ніводнага праведнага чалавека. Але выбраўшы даволі вольную форму адлюстравання сваёй задумы, рэжысёр як быццам пайшоў на кампраміс з распустай і усё ж спакусіўся на тое, каб упрыгожыць яе ружамі. Мне падаецца, што гледачы не ўспрымаюць фарсы як нешта сур'ёзнае. Гэты спектакль многія абвінавачваюць у страшэннай пошласці на сцэне, але, на маю думку, голыя азадкі акцёраў і аголеныя грудзі актрыс апраўданы фрывольначчу жанру. Як вядома, у сярэднявеччы тэатр быў пераважна вулічнай забавай. Фарсы, перанесеныя ў сцэны традыцыйнага рэпертуарнага тэатра, нават нягледзячы на вытанчаныя мізансцэны і шыкоўныя касцюмы герояў, губляюць натуральнасць. На жаль, у новым спектаклі Катавіцкага чатыры гісторыі, якія раскрываюць брудную сутнасць чалавечай прыроды, не сталіся цэласным творам: на сцэне павольна разыгрываюцца чатыры асобныя "сцэнкі", звязаныя толькі персанажам Чорта. А вось публіка ва ўсе часы тая ж. Забаўляльнасць, камедыйнасць змесету фарсаў ёй падабаецца больш за ўсё. Таму пузаты п'янюга-манах у выкананні Э. Сакуры ці "палавы гігант" брат Гільбер І. Чарапко пражываюць на сцэне свае гісторыі пад шчырыя апладысменты залы.

Думаецца, што, каб сёння выставіць насамрэч чалавека аслом, балюча зачапіць яго ганарлівасць, патрэбны зусім іншыя сцэнічныя сродкі, іншая драматургія.

Здаецца, добрая па сённяшнім часе ідэя — пакараць на сцэне хама. Толькі гэтая задума, агучаная В. Катавіцкім у многіх інтэрв'ю, застаецца эфемернай, нявыяўленай у яго новым спектаклі "Страсці ў Віндзоры". Пастаноўцы бракуе вынаходлівага рэжысёрскага вырашэння, якое, з майго гледзішча, ёй проста неабходна. Бо на сцэне Маладзёжнага тэатра акцёры пакуль не гатовы быць самі сабе рэжысёрамі. Зразумела, што спектакль яшчэ не абыграны, не абжыты відачынцамі. Верыцца, што камедыя, якая пакуль распадаецца на асобныя кавалкі, у будучым будзе глядзецца цэласным, дынамічным творам. Для мяне асабіста самы верны паказчык удалага спектакля — гэта калі забываеш падчас яго, што знаходзішся ў тэатры. Нягледзячы на серыю вясёлых, забаўляльных калізій (самаўпэўнены рыцар сэр Джон Фальстаф вырашыў заляцацца да багатых кабетаў), іранічных спасылак на наш час (гэта асабліва адбіваецца ў музычным афармленні спектакля), уключэння ў сцэнічны твор не адбылося. Мо таму, што ў спектаклі "Страсці ў Віндзоры", па сутнасці, не адчуваецца ніякіх "страсцей".

У спектаклі некалькі спасылак на іншыя творы Шэкспіра. Напрыклад, з "Гамлета" па волі рэжысёра ў пастаноўку трапіў "прывід бацькі Гамлета", з'яўленне якога арганізавалі Фальстаф і яго сябры, каб раcпавесці даверлівым віндзорскім гараджанам Форду і Пэйджу, што, як у падманутых мужоў, у іх на галовах растуць рогі (з гэтай інтрыгі і распачынаецца вір падзей у п'есе). З камедыі "Сон у чарадзейную ноч" Шэкспірам перанесены феі, эльфы, у маскі якіх падчас своеасаблівага выкрывальніцкага маскараду пераапранаюцца ўсе персанажы — жыхары Віндзора. Толькі тут царыца фей — міс Ганна Пэйдж, навучаная маці і яе сяброўкай, з'едліва насміхаецца над аслом-Фальстафам, хамам і альфонсам-няўдачнікам.

Дзіўна, што ў гэтай пастаноўцы няма выразных акцёрскіх малюнкаў. Відавочна, што рэжысёр рызыкнуў, запрасіўшы на галоўную ролю малавопытнага акцёра І. Шчатко (Фальстаф), які між іншым ужо паспеў выпрацаваць на сцэне Маладзёжнага тэатра пэўныя штампы ігры. Услед за спектаклямі "Позняе каханне", "Трамвай "Жаданне" Шчатко зноў іграе бесклапотнага, дураслівага персанажа. Вядома, не ўсё ўдаецца акцёру на сцэне, але яго Фальстаф падабаецца публіцы. Бадай, самыя запамінальныя персанажы спектакля — гэта камічны, імпульсіўны французскі доктар Каюс у выкананні С. Шаранговіча, падазроны, раўнівы Форд-маўр Брук А. Шарова, баязлівы Слендар у выкананні С. Навіцкага. На жаль, актрысам у гэтым спектаклі няма чаго іграць. Рашучыя віндзорскія насмешніцы місіс Форд (Н. Падвіцкая), місіс Пэйдж (Р. Сідорчык), яе дачка Ганна (Н. Дуванава), місіс Куіклі (А. Хрысціч) толькі ўпрыгожваюць сцэну сваімі з'яўленнямі на ёй. А наогул "Страсці ў Віндзоры" адкрылі сапраўднага майстра эпізадычнай ролі — Гарбун у выкананні К. Задворнага выклікае ўсмешку і спачуванне да яго нялёгкай долі шынкара. Акцёр, які за ўвесь спектакль не кажа амаль ніводнага слова, здолеў з выдумкай прадставіць свой персанаж, вымусіць гледача чакаць яго з'яўлення на сцэне...

Шкада, калі ў таленавітага, цікавага рэжысёра з'яўляюцца прахадныя спектаклі. Верыцца, што "Жанчына ў пясках" К. Абэ, якую цяпер рыхтуе да пастаноўкі В. Катавіцкі, раскрые нам багаты, глыбокі ўнутраны свет рэжысёра. Несумненна, спектакль будзе аўтарскім і актуальным, бо эксперыменты В. Катавіцкага працягваюцца...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Страсці ў Віндзоры".*

**Фота Г. ЖЫНКОВА**



## ЛІМ-ЧАСАПІС

# "КРУШЭННЕ НА РОСТАНІ"

**Васіль Якавенка. Эсэ, артыкулы, гутаркі**

"Трохі здзіўляюся сам сабе, чаму я раней не выдаў зборнік сваёй публіцыстыкі, і цяпер мушу ладаваць пад адной вокладкай шмат матэрыялаў, азадачваючы чытача груваcтасцю кнігі", — гэтак сказаў Васіль Якавенка ў прадмове да свайго выдання. Тут можна пагадзіцца з пісьменнікам толькі ў адным: сапраўды, чаму гэтак марудна і з гэткімі цяжкасцямі выходзяць сёння ў свет вельмі патрэбныя людзям кнігі? Адказ, відаць, банальна просты: дзяржаўныя выдавецтвы ўшчэнт змізарнелі і сядзяць на галодным пайку, а ў недзяржаўных — калі ласка, выдавайся, але шукай грошы, прытым грошы немалыя. А ці многія ў сённяшніх жыццёвых варунках здольныя на такое? Усё спадзяванне на спонсараў, але і іх кола звужаецца з кожным днём...

Васілю Якавенку пашанцавала і з выдаўцом, і са спонсарам. Выдавецтва "Беларускі кнігазбор", акрамя серыйных кніжак, якія карыстаюцца нязменным чытацкім попытам, не-не дый выдасць на-гара што-колечы і па-за планам, найперш тое, за што не было б ні перад кім брыдка. Васіль Якавенка — у ліку гэткіх уганараваных. Спонсар у яго таксама пачэсны: ГА Беларускі сацыяльна-эканамічны саюз "Чарнобыль".



Карацей кажучы, падзея адбылася, кніга пабачыла свет і на радасць аўтару, і на вялікую карысць тым, хто падзабыў ці добра не ўцяміў урокі нядаўняй нашай гісторыі. Досыць яркі і самабытны публіцыст, Васіль Якавенка дарэмна баяўся "азадачыць" чытача груваcтасцю сваёй кнігі. Атрымалася ўсё інакш. Зборнік, пад вокладкай якога ўмясціліся творы, напісаныя гарачым сэрцам па гарачых слядах падзей і фактаў, чытаецца ўдумліва і надзвычай зацікаўлена.

На прэс-канферэнцыі, якая прайшла ў Доме друку з нагоды выхаду памянёнага зборніка, думка выступоўцаў была аднадушная: кніга Васіля Якавенкі — гэта беларускія духоўныя каардынаты ў прасторы і часе, гэта суровае абвінавачванне бальшавіцкай імперыі ў знішчэнні не толькі народаў, але і прыроды. Кожны твор — чалавечы і грамадзянскі ўчынак (Эрнест Ялугін), гэта летапіс сённяшняга нашага жыцця, выдатны матэрыял для гісторыкаў (Георгій Штыхаў, доктар гістарычных навук, Валерый Пазнякоў, доктар філасофскіх навук).

Грунтоўна прааналізавала творы В. Якавенкі пісьменніца Вольга Іпатава, адзначыўшы ў іх высокую грамадзянскую пазіцыю аўтара, ягоныя мужныя словы праўды аб прычынах і наступствах чарнобыльскай катастрофы, і гэта акурат у той час, калі з вуснаў высокіх афіцыйных асобаў гучала суцэльная мана. Тую ж горкую праўду гаварыў В. Якавенка ў шматлікіх сваіх выступах і артыкулах па пытаннях асушэння Палесся. Не застаўся пісьменнік-публіцыст у баку і ад пякучых праблем пісьменніцкай арганізацыі. Ягоныя артыкулы, інтэрв'ю, змешчаныя ў розных выданнях і зараз сабраныя разам у кнігу, — выдатны дакумент для будучых даследчыкаў літаратурных і пазалітаратурных працэсаў напрыканцы XX і пачатку XXI стагоддзяў.

На канферэнцыі, у падтрымку пазіцыі аўтара кнігі, выступілі, акрамя памянёных асобаў, дырэктар Інстытута гуманітарных экалагічных тэхналогій Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій Ягор Фядзюшын, урач 3-й клінічнай бальніцы г. Мінска, перасяленец з Веткі Васіль Карповіч, ягоная жонка, інвалід Чарнобыля Алена Рамановіч і іншыя.

**Алесь РЫБАК**

## ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

# У ПОШУКАХ ЧАЛАВЕКА-АСОБЫ, ЧАЛАВЕКА-ГРАМАДЗЯНІНА

Чалавечыя ўчынкі заўсёды звязаныя з іх матывамі, пабуджальнымі прычынамі. Нават у тых учынках, якія мы падчас называем нематываванымі, на самай справе ёсць свае матывы.

Класікі нашай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас падалі нам багата яркіх мастацкіх прыкладаў глыбокай псіхалагічнай матывацыі чалавечых учынкаў і мноства выдатных узораў метадалагічнага падыходу да расшыфроўкі індывідуальнай духоўнай "самасці" чалавека.

Так, напрыклад, з тужліва-шчымлівага лірычнага запеву пра лёс таленавітага сялянскага дзіцяці, душа і сэрца якога ўжо ў маленстве здольны былі настройвацца на тонкае і чуйнае ўспрыманне шматгалосай музыкі жыцця, распачынаюцца першыя старонкі коласаўскай паэмы "Сымон-музыка". Сацыяльнае асяроддзе, як вынікае з твора, пакуль яшчэ не падрыхтаванае зразумець, належным чынам разгледзець і па-сапраўднаму ацаніць тое, што ў патэнцыяльна не разгорнутых на поўную сілу духоўных магчымасцях таленавітага хлапчука закладзена *перадумова* вялікіх і важных грамадскіх спраў чалавека. І ў першую чаргу спраў, звязаных з духоўным, нацыянальным адраджэннем роднага краю, пабудовай свабоднай і незалежнай краіны, суверэннага Дома-дзяржавы. Бо ў гэтым, прыдушаным нястачамі і беднасцю асяроддзі, часта панавала іншая, прыземленая, практычна-побытавая шкала ацэначных каштоўнасцей.

Якуб Колас з першых старонак свайго твора ставіць перад сабой мэту падкрэсліць і выпукліць буйным планам у праявах характару і дзеяннях галоўнага героя стрыжнявую прыродную дамінанту, якую прынята называць талентам і якая нясе ў сабе пры ўсёй разнастайнасці сваіх адценняў агульнатыпалагічную прыкмету: непакорлівасць вонкавым уздзеянням, неспатольную прагу духоўнага самасцвярджэння і імкненне вырвацца з-пад уціску звыклых стэрэатыпаў мыслення.

У той жа час аўтар падкрэслівае, што далёка не ўсё, дадзенае чалавеку ад нараджэння, падараванае маці-прыродай, даецца яму ў гатовым, завершаным і канчаткова сфармаваным выглядзе. Гэта думка ўвогуле з'яўляецца ў коласаўскай паэме лейтматыўнай і знаходзіць сваё развіццё і выяўленне ў шматстайных звівах і паваротах яе сюжэта. Так, пакінуўшы бацькоўскую хату падлеткам, галоўны герой гэтага твора Сымон мусіць прайсці шмат цяжкіх і складаных дарог, сустрэцца з многімі і многімі людзьмі, узбагаціцца жыццёвым і прафесійным вопытам, каб адчуць у сабе ўзмужнелую духоўна-творчую сілу і маральнае права несці "людзям песень дар — агонь душы і сэрца жар".

Ды і на такім досыць высокім этапе духоўна-творчай эвалюцыі Якуб Колас не лічыць, што музычны талент героя дасягнуў у сваім развіцці нейкай апошняй інстанцыі, завяршыў і закончыў сваё станаўленне і фарміраванне. Пра гэта красамоўна сведчыць адкрыты сюжэтны фінал коласаўскай паэмы: герой, выдаткаваўшы так багата энергіі на аналітычнае асэнсаванне жыцця і грамадскай ролі мастацтва, прайшоў усяго толькі адзін, хоць і важны жыццёвы круг, а там, наперадзе, перад ім вымалёўваецца шырокі і, можна сказаць, бязмежны прастор нязведанага і неспазнанага, за якім ізноў " пачнуцца новыя кругі" сталення і развіцця таленавітай асобы.

Якуб Колас развітваецца са сваім героем, будучы ўпэўненым, што з пуцявіны духоўнага самаўдасканалення і служэння народу яго Сымон не збочыць, "бо ён *прыроджаны* (курсіў мой. — **В. Ж.**) пясняр".

Вылучаючы і падкрэсліваючы гэты момант, Якуб Колас выступае тут як тонкі псіхолаг, сур'ёзна зацікаўлены зрабіць аб'ектам пільнай літаратурнай увагі найменей даследаваныя і глыбока схаваныя тайны чалавечай душы і грунтоўна падрыхтаваны да раскрыцця яе ўнутранай нюансавай сутнасці. Аўтарская думка, відаць, неса тут у сабе і пэўны элемент палемічнасці.

Добра разумеючы, аднак, сілу і ролю знешняга ўплыву на фарміраванне чалавечай асобы, Я. Колас, як мы ўжо заўважалі, на працягу ўсёй паэмы "Сымон-музыка" не забывае падкрэсліваць і вылучаць стрыжнявую грань характару галоўнага героя гэтага твора — яго прыродную адоранасць, музычны талент. І дарагія Коласу такія, з рэдкім прыродным талентам людзі найперш таму, што яны — *найвышэйшая духоўная каштоўнасць чалавецтва і неацэнны, нічым і нікім незаменны духоўна-інтэлектуальны скарб і патэнцыял кожнай нацыі.*

А цяпер мы дазволім сабе маленькае адступленне. Глыбока прыхаваная ў падтэксце палемічная ідэя ў коласаўскай паэме "Сымон-музыка" галоўным чынам скіраваная нібыта ў мінулае. Але найбольш трывожыла аўтара ўсё ж бягучая сучаснасць і дзень заўтрашні. Ды і было ад чаго ўстрывожыцца. У той час, калі ў беларускім друку сталі з'яўляцца ўрыўкі з коласаўскай аповесці "У палескай глушы" — першай часткі будучай трылогіі "На ростанях", і ішла завяршальная праца над паэмамі "Новая зямля" і "Сымон-музыка", па рашэнні дзеячаў вышэйшай дзяржаўнай і партыйнай улады (са згоды, дарэчы, і самога Леніна) за межы краіны была выслана, а дакладней выгнана першая вялікая партыя "людзей думкі". Зусім не ворагаў савецкай улады і не контррэвалюцыянераў, а ў чымсьці толькі не згодных з гэтай уладай, і ў прыватнасці, з яе нежаданнем ні на крок адыходзіць ад схемы асноўных прынцыпаў марксісцка-ленінскай тэорыі класавай барацьбы і ставіць складаныя праблемы жыцця ў альтэрнатыўным, філасофска-метадалагічным і гуманістычным ключы іх вырашэння.



Нам здаецца, што і той, добра знаёмы кожнаму ўважліваму чытачу коласаўскай паэмы "Сымон-музыка" журботна-скрушны ўспамін пра дачасна зведзеных са свету "невядомых, непрызнаных, не аплаканых нікім" талентах — гэта не толькі рэтраспектыўны аўтарскі погляд, гэта — і трывожна-клопатны роздум пра наша *нацыянальнае заўтра, пра нашу будучыню.* Ды ўрэшце і падтэкст тут вельмі празрысты. Бо ўслед за гэтым аўтарскім успамінам-рэквіемам прамаўляюцца (ад імя зноў-такі самога паэта) такія заклікальна-пафасныя словы:

*Дык хіба ж мы праў не маем,*
*Сілы шлях свой адзначаць*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?*

Відавочна, тут кожнаму было добра зразумела, на каго Колас ускладаў асноўныя свае надзеі і спадзяванні ў абуджэнні стваральных сіл народа, нацыянальнай свядомасці і фарміраванні незалежнай суверэннай дзяржавы. На жаль, пераважная большасць з тых, каго Колас меў тут на ўвазе і да каго ён звяртаўся з такім пранікнёным, прачулым і палымяным словам, неўзабаве сталі пакутнікамі ГУЛАГаў або проста былі расстраляныя. А словы-заклікі і словы-напаміны вялікіх паэтаў свету аб незаменнасці кожнай чалавечай асобы на зямлі і неабходнасці асабліва беражлівых і клопатных адносін да прыроднага, боскага дару людзей былі "ўдакладнены" злавесным і жорсткім сталінскім выразам: "незаменных у нас няма".

У параўнанні з Коласам некалькі з іншага боку ў выяўленні адметных асаблівасцей прыроднага дару чалавека і вытлумачэнні ролі і значэння таленту ў грамадскім нацыянальным кантэксце жыцця падыходзіць Купала, хоць на нейкіх галоўных каардынатах гэтай праблемы думкі іх перакрыжоўваюцца. Возьмем, да прыкладу, рамантычную купалаўскую паэму "Магіла льва". Тут, як і ў паэме Я. Коласа "Сымон-музыка", прыродная рыса характару чалавека асэнсоўваецца як вельмі важнае звяно ў яго жыццёвай біяграфіі, з'яўляючыся фактычна і асноўным цэнтрам асацыятыўнага выхаду аўтарскай думкі на шырокае і праблемнае кола побытавых і быційна-філасофскіх пытанняў. Так, з першага знаёмства з галоўным героем паэмы "Магіла льва" Машэкам паказваецца, што быў ён вельмі дужы, "дзіцём нясці ўжо мог калоду" і — што самае адметнае — "натуру меў ён залатую, як бы ягнём, патульны быў". Інакш кажучы, прырода і тут запраграмавала ў душы героя немалы талент. Аднак атрымліваецца нешта дзіўнае і нават парадаксальнае. Добры і душэўны паводле сваёй прыроды Машэка, ахоплены прагай помсты свайму крыўдзіцелю, становіцца страшным разбойнікам, аднолькава жахлівым для чужых і сваіх:

*Крывёй ці віннай, ці нявіннай*
*Насмерць упіўся бы з душой*
*Другіх губіў бы і сам гінуў,*
*Абы цярпеў чужы і свой.*

Дык чаму ж так здарылася?

На гэта няпростае пытанне крытыкі і літаратуразнаўцы шукаюць адказы з часу з'яўлення купалаўскай паэмы ў друку. Ды, відаць, узнаўленне нейкай абсалютна дакладнай ва ўсіх нюансах і падрабязнасцях кардыяграмы гэтых, узаемавыключальных паводле сваёй сутнасці, паводзін героя, не разлічваў і сам аўтар.

Змястоўныя гарызонты даследавання гэтага цікавага і глыбокага сімволіка-алегарычнага твора Купалы мы зможам рассунуць, паўней і глыбей улічваючы мастацка-светапоглядны працэс развіцця самога аўтара паэмы. Час напісання "Магілы льва" — гэта перыяд відавочнага паслаблення ў творчасці Купалы і Коласа рэвалюцыйных настрояў і адчувальнае ўзмацненне ўвагі на пошук дэмакратычна-эвалюцыйных шляхоў. Класікі з большай асцярогай, чым, скажам, падчас рэвалюцыі 1905—1907 гадоў, пачалі ставіцца да таго чалавека, які, не ўзбагаціўшы сябе належнымі жыццёвымі арыентацыямі і будучы слаба падрыхтаваным да альтэрнатыўных падыходаў у вырашэнні складаных і праблемных пытанняў, паспешліва схіляўся да выкарыстання найбольш простых і малаэфектыўных спосабаў — сілавых і вельмі часта звязаных з імі крутых і жорсткіх дзеянняў.

Прычым тут варта заўважыць і пэўным чынам выдзеліць тое, што ўмацаванне і паглыбленне ў купалаўскай і коласаўскай творчасці дэмакратычна-эвалюцыянісцкіх акцэнтаў і тэндэнцый ніякім чынам не паслаблялі аўтарскіх патрабаванняў да чалавека як духоўнай і актыўнай грамадскай сілы. Патрабаванні гэтыя ў Янкі Купалы і Якуба Коласа заўсёды заставаліся вялікімі, а ў той час, калі не рэвалюцыянізм, а менавіта дэмакратычны і эвалюцыянісцкі погляд пашыралі і паглыблялі свае абсягі, такія патрабаванні яшчэ больш узрасталі, стымулюючы чалавека да са-

## ПРА БАГАЦЦЕ ДУШЫ

У слушнасці агульначалавечай філасофскай думкі-сцвярджэння пра тое, што толькі сам чалавек у вялікай ступені творца свайго лёсу, яшчэ раз пераконваешся, калі гартаеш новы паэтычны зборнік Эдуарда Збароўскага "Таямніцы шчасця", выпушчаны Беларускім саюзам журналістаў у афармленні мастака Людмілы Рудакоўскай. Ніякім чынам не прыхарошваючы рэчаіснасць, аўтар — доктар медыцынскіх навук, прафесар, што шмат гадоў аддаў служэнню свайму краю, усё жыццё імкнуўся дапамагчы землякам, родным, блізкім, ды і зусім незнаёмым людзям — кіруецца ўласным жыццёвым вопытам і здаровым сэнсам і, як адзначае ў прадмове да кнігі паэт Анатоль Вярцінскі: "...фізічнае здароўе... самым непасрэдным чынам звязвае са здароўем маральным", бо "...лад жыцця, стан навакольнага асяроддзя, спадчыннасць — не вырашаюцца ні медыцынскай, ні нават грамадскімі інстытутамі". Сваё жыццё чалавек ладзіць сам, зыходзячы са сваіх мэтаў, перакананняў, жаданняў — або нежаданняў:

*Шанцаў кожны мае мора,*
*Плысці ў шчасце ці да гора.*

І, відаць, усім невыпадкова сёння, у час паняверкі і душэўнай глухаты, што агарнула пэўную частку грамадства, страты маральных арыенціраў і сапраўдных каштоўнасцей, на якіх трымаецца само існаванне чалавецтва, гучыць у вершаванай форме яго голас-папярэджанне пра пільную неабходнасць захавання традыцый і звычаяў сям'і, роду, народа, як тое спрадвеку вялося на Беларусі. Фотаздымкі бацькоў, дзядоў, прадзедаў, унукаў і пляменнікаў. Жанчыны ў сукенках пачатку мінулага стагоддзя, родная хата, мілыя сэрцу краявіды... Сапраўды, толькі адчуванне прыналежнасці да магутнага радаводнага дрэва, урослага каранямі глыбока ў родную глебу, дае надзею і магчымасць не згубіць сваё "я" ў энергаінфармацыйным бязладдзі, назаўсёды захаваць повязь з прашчурамі і нашчадкамі, "...бо ўсё жывое засыхае, як сувязь з коранем губляе". Пяць паэтычных раздзелаў кнігі — дакладных, ясных, празрыстых — як гаючая вада з крыніцы для хворай душы, як духмяныя зёлкі, руплівa сабраныя на досвітку дзеля агульнай карысці, своечасовы напамін пра пільную патрэбу "Жыць і верыць запаветам, што прыйшлі ад Бога". Стан сучаснага грамадства ўвогуле і стан чалавека як асобы ў прыватнасці — вось тое галоўнае, што найперш турбуе аўтара. Не можа быць паразумення і згоды, спакою і здароўя ў разбалансаваным свеце, ахопленым прагай грошай і выгодаў, у хцівым чалавечым мурашніку, дзе катастрафічна бракуе дабрыні і цеплыні. І Э. Збароўскі, які добра ведае і разумее не толькі сілу лекаў, але і сілу слова, прапісвае паэтычныя "рэцэпты" ад ляноты, дурноты, нядбайнасці, злачыннай бяздумнасці і безадказнасці:

*Пра багацце душы трэба*
*марыць часцей,*
*Толькі з ёю заўжды можна*
*стаць багацей.*

Лёс мовы, Айчыны, гісторыі, ашчаднае стаўленне да ўсяго існага, адказнасць улады перад чалавекам — яшчэ адна тэма зборніка. Балюча адгукнулася ў сэрцы аўтара чарнобыльская трагедыя — родная вёска Ліхаўня, што на Гомельшчыне, трапіла ў зону апраменьвання і назаўжды апынулася "за гранью смертельного круга". Менавіта гэтым трагічным падзеям, наступствам нечуванай бяды, з якой не змірылася і не хоча змірыцца свядомасць, прысвечаны асобны раздзел пад назвай "Чарнобыль баліць, папярэджвае, вучыць".

Невялікі празаічны раздзел "Таямніцы жыцця" — разважанні пра месца чалавека ў неабсяжным сусвеце, дзе "...прызначэнне кожнага — забяспечыць у свой час адметнае гучанне адведзенай яму ноты, не разбураючы агульнага строю ...хору-аркестра". І як паратунак ад сквапнасці і злосці, зайздрасці і нелюбові, збавенне ад дысгармоніі з навакольным, ад багны адчаю і бессэнсоўнасці існавання гучаць простыя і мудрыя, чамусьці забытыя і амаль занядбаныя парады біблейскага кшталту. Сумленне і гонар, Анёл і вера, радзіма і Адзіны Уладар. Дзесяць парадаў, дзесяць крокаў па жыцці, дзесяць крокаў да самога сябе.

Таямніцы шчасця? Яны зусім нескладаныя, варта толькі прыслухацца да голасу чалавека, шчыра занепакоенага нашым заўтра.

**Марыя РУДОВІЧ**

**ЗАМЕЖЖА**

# ЛІТАРАТУРА – ЗАНЯТАК ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ ЗАМОЖНЫХ, У ПРЫВАТНАСЦІ – У ПОЛЬШЧЫ

***Гэтая размова адбылася падчас маёй паездкі ў Польшчу. Блукаючы па цудоўных гістарычных мясцінах Варшавы і вывучаючы старадаўнія і сучасныя набыткі польскай сталіцы, я не мог не завітаць у Польскі дом літаратара, які знаходзіцца проста перад каралеўскім палацам, непадалёк ад помніка Адаму Міцкевічу. Прывяло мяне туды жаданне даведацца, што сёння робіцца ў літаратурным жыцці нашага заходняга суседа.***

***Сённяшняя сітуацыя ў пісьменніцкім асяроддзі Польшчы ў многім нагадвае беларускую, пры той розніцы, што канфлікт падзяліў калісь адзіны Саюз польскіх пісьменнікаў на два, кожны з якіх з уласным кіраўніцтвам і ўласнымі фінансавымі рахункамі. Знаходзяцца ж яны ў адным будынку, адно — у розных пакоях, заваленых кнігамі: тут можна купіць па больш нізкіх коштах, чым у кнігарнях, любую польскую літаратуру — ад класікі да сучасных аўтараў.***

***Саюз польскіх пісьменнікаў падзяліўся па палітычных прычынах: адны падтрымліваюць сучасную еўрапеізацыю краіны і выяўляюць буржуазныя інтарэсы ў сваіх поглядах, другія лічаць, што спадчыну сацыялістычнай Польшчы нельга безапеляцыйна адкідаць і прытрымліваюцца сацыял-дэмакратычнага кшталту. Да другіх, так званых "левых", належыць большая частка старэйшага пакалення польскіх літаратараў.***

***Мне ўдалося пагутарыць з Генрыкам Галам і Кшыштафам Гансяроўскім, прадстаўнікамі "левага" крыла. Прапаную ўвазе чытачоў запіс гэтай гутаркі, а таксама вершы маіх суразмоўнікаў у перакладзе на беларускую мову.***

**Сяргей ПАТАРАНСКІ**

**С. Патаранскі: — Дзякую, панове, што згадзіліся на нашу сустрэчу. Беларускаму чытачу будзе цікава даведацца пра тыя працэсы, якія адбываюцца ў сучаснай польскай літаратуры.**

**К. Гансяроўскі:** — Нам вельмі прыемна, што некаму ў Еўропе яшчэ цікава тое, што адбываецца ў літаратуры Польшчы, бо нашая дзяржава, здаецца, зусім забылася, што існуюць такія людзі, як пісьменнікі. Мне здаецца, сучасная ўлада разам з вынішчэннем камунізму паставіла на мэту знішчыць і культуру... У ПНР існавала ідэалогія, але існавала і стабільнае фінансаванне. Сёння ідэалогія, дзякуй Богу, адсутнічае, але і грошай таксама няма. На культуру з бюджэту сёлета выдзелена ўсяго 0,34%, таму фінансавання аніякага. Наватдом, у якім мы заўсёды знаходзіліся, цяпер ужо не нашая ўласнасць— за яго арэнду мы вымушаны плаціць з уласнай кішэні.

**С. П.: — Якім жа чынам вы мусіце выжываць!**

**Г. Гала:** — Сапраўды, мусім выжываць. Паэт, да прыкладу, зарабляе на жыццё, пішучы папулярныя, "папсовыя" песенькі ці рэкламныя слоганы. А празаік — штампуючы адзін за адным бульварныя раманы. Сама ж творчасць нашых мастакоў слова на дзяржаўным узроўні папросту не папулярызуецца.

**С. П.: — Як гэта разумець!**

**Г. Г.:** — Дзяржаўныя выдавецтвы проста не выдаюць сучасных польскіх пісьменнікаў, бо не ведаюць, ці акупіцца кніга. Яны існуюць без дзяржаўных датацый. Па сутнасці, яны таксама вымушаныя выжываць і свае шыльды "дзяржаўныя" носяць чыста намінальна.

**С. П.: — А ўсе гэтыя кнігі ў вашым пакоі? Як яны выдаваліся?**

**К. Г.:** — Усё гэта выдавалася дзякуючы грошам спонсараў, ці лепей казаць — сяброў тых, хто піша. Калі ты маеш добрага прыяцеля-бізнесмена, то ён табе можа дапамагчы. Я, выконваючы абавязкі старшыні пісьменніцкага саюза, не атрымоўваю ні злота ад дзяржавы. 5 анталогій, у якія ўключана каля трохсот імёнаў маладых паэтаў, а таксама 1500 назваў новых кніг, якія вы бачыце на паліцах, выдадзены дзякуючы маёй менеджэрскай дзейнасці. Самі разумееце, не кожны літаратар гэтак можа, бо прафесіі пісьменніка і менеджэра ўсё ж такі розныя.

**С. П.: — Наколькі я ведаю, тэатр і кіно маюць адносна неблагія прыбыткі. Ці не прыносяць грошай пісьменнікам драматургія і сцэнарыі!**

**Г. Г.:** — Каму пашанцуе, той можа і прабіцца. Але большасць тэатраў у Польшчы сёння недзяржаўныя і яны таксама вымушаны ствараць тое, што бяспройгрышна прынясе прыбытак, і не займаюцца мастацкімі пошукамі. Сучаснае пакаленне драматургаў амаль невядома шырокай публіцы.

**К. Г.:** — Разумееце, закон аб ільготным падаткаабкладанні на адлічэнні ў культуру аддаў яе, па сутнасці, на патрэбу буржуазіі. У сярэдзіне дзевяностых мы апынуліся сам-насам з бязлітасным рынкам, дзе ніхто пра нашу сацыяльную абарону і не падумаў. Маўляў, плыві, як умееш, а ці выплывеш — гэта ўжо твая асабістая праблема. Кіно і тэатр, мастацтвы, разлічаныя на масы, у пэўным сэнсе нават выйгралі. Сёй-той з рэжысёраў і акцёраў паспеў зрабіць за гэты час і капіталы. Але ж літаратура — гэта іншае. Думаю, што і тым, хто толькі спрабуе займацца мастацтвам у кіно ці тэатры, таксама не лягчэй, чым нам. Я ўжо маўчу пра моладзь — пра іх, зноў жа, дбае не дзяржава, а буржуазія, а яна не лічыцца з тваімі ўласнымі мастацкімі запатрабаваннямі, а патрабуе рабіць толькі тое, што яна хоча. Карацей, як у рэстаране: хто плаціць, той і заказвае музыку. Мяркую, што падобная сітуацыя дужа падрывае культуру ў самім народзе, бо людзі, спакушаныя таннымі падробкамі пад сапраўднае, не маючы ніякай альтэрнатывы пазнання, відавочна асуджаны на дэградацыю

**Генрык ГАЛА**

### ДОМ

*Ёсць такая ціша,*
*можа дзесь над акіянам,*
*дзе віхуры ірвуць паветра*
*апантана.*

*Ёсць такое святло,*
*якое паміж дрэвамі,*
*калі ноч прыстане ля двара*
*ўчасна.*

*Ёсць такія пахі,*
*як прысмак духмянасці*
*пылу ў сне вандроўца*
*на шляху.*

*І ёсць трывога*
*з партрэтаў і незваротных лістоў,*
*сімвалаў пастаянства.*

*А ёсць надзея*
*— гліна і пясок у зубах дрэва,*
*— як ціша, святло і духмянасць;*
*на святую зорку і вялікую ноч,*
*на жніво і хаўтуры*
*— ў самім сабе,*
*толькі ў сабе.*

### ГОРАД

*Гэта той кавалак зямлі,*
*які на падабенства лыжкі,*
*мае свой кшталт*
*— кшталт выкшталцонага вуха.*

*Каменне нязнання,*
*хлусні карэнне,*
*— тут рэч звыклая;*
*шараговыя калейкі лёсу,*
*якія маюць зваротны характар.*

*Тут не бывае садоў*
*з цудоўнымі спевамі птушак.*
*Тут трэба проста быць,*
*вучыцца доўга хадзіць,*
*вучыцца далей бачыць,*
*шмат чуць,*
*і ніколі не мець магчымасці*
*ўсё пачаць спачатку,*
*а інакш нічога не атрымаецца:*
*толькі так,*
*і ніяк па-іншаму.*

### САМОТА

*Нічога не знойдзеш —*
*акром сябе самога.*

*Пошук марны*
*бо прыводзіць*
*да першай кропкі*
*— тое самае, што па крузе хадзіць*
*— і прыйсці зноў на месца*
*пачатку.*

*Чакаць яшчэ кагосьці?*
*Бессэнсоўна.*
*Але чаму залежны ад таго,*
*што я адзін*
*у тым зялёным*
*з бляскам ружовасці*
*святле*
*— святле духоўнага тлену*
*сам заложнік*
*сваёй незалежнасці.*

### ЗІМОВЫ МІНОР

*Холад бязмежны*
*з сіверам снежным...*
*Прыйдзе, абыдзе, сыдзе.*

*Лета ў сандалях*
*з торбаю жалю...*
*Спявала, кахала, прапала.*

*Слова, як бура,*
*ў далі віхурнай...*
*Было, не было, не ўзышло.*
*Маю адное:*
*сэрца сляпое*
*— блізка, не блізка, ні водбліску...*

**Кшыштаф ГАНСЯРОЎСКІ**

### СЕЗОН У ДЖУНГЛЯХ

*Бедныя людзі —*
*жывём як на беразе ракі*
*ў якую пры жаданні*
*Можна патрапіць яшчэ раз:*
*на ўсялякі выпадак*
*— калі ведаеш неабходны пароль.*

*А ў ночы*
*наш любімы занятак*
*пэцкаць уласнымі развагамі*
*белыя, як язмін ці снег,*
*старонкі кніг:*
*што мацней уплывае на псіхіку*
*— праблема ці яе прычына*
*і ці сапраўды вада,*
*якая плыве*
*з крыніцаў.*

*Толькі ўсё для нас жа саміх*
*прасцей:*
*мы як і ўсе,*
*аматары браць удзел у любых*
*катастрофах,*
*што адбываюцца ў джунглях.*

*Але пакуль мы прыгодныя*
*на трапезу мясцовага абарыгена,*
*можам існаваць*
*— патрэбныя свету*
*і сабе.*

### НА ЦЯЖКІМ КРЫЛЕ

*На цяжкім крыле поўні*
*цяжкім крыле сну*
*праносіцца над намі крык*
*птушкі ночы*
*скаваны жахам смерці.*

*Што адбудзецца, будзе пачаткам,*

духу. І што будзе з таго — страшна падумаць. Таму аб з'яўленні новых вайдаў, гратоўскіх і занусі сёння гаварыць не даводзіцца.

**С. П.: — Пэўна, такая пазіцыя пэўнага кола пісьменнікаў і сталася асноўнай прычынай, якая прымусіла саюз падзяліцца!**

**Г. Г.:** — У нейкім сэнсе, так. Тут варта хутчэй казаць аб тым, што больш маладое пакаленне, якое пераважна і ўваходзіць у Таварыства польскіх пісьменнікаў, мае іншыя падыходы да жыцця і мастацкай творчасці.

**С. П.: — Якія, калі не сакрэт!**

**Г. Г.:** — Яны лічаць: добра ўсё тое, што прадаецца. Я не асуджаю іх асабіста. Ёсць і такая пазіцыя — сёння няпроста ўсім. Але, прабачце, мастацтва — гэта ж не мяса, і таму асабіста для мяне не ўсё так адназначна.

**С. П.: — Колькі членаў у адной і другой арганізацыях!**

**К. Г:** — Таварыства польскіх пісьменнікаў лічыць 80 чалавек, наш Пісьменніцкі саюз — 300.

**С. П.: — А што сталася з матэрыяльнай маёмасцю колішняга СПП — Саюза польскіх пісьменнікаў! З рэстаранам, які знаходзіцца ўнізе, з домам адпачынку! У нас, напрыклад, каб неяк выжыць, Саюз пісьменнікаў стараецца рабіць пэўны бізнес на тым жа доме адпачынку і творчасці...**

**К. Г.:** — Пасля падзелу саюза на два крылы дзяржава палічыла мэтазгодным пазбавіць нас усялякай матэрыяльнай падтрымкі, матывуючы гэта тым, што два літаратурныя саюзы яна ўтрымліваць не зможа. Таму ўся наша ранейшая маёмасць была пушчана на распродаж, каб пакрыць даўгі, а наш дом быў аб'яўлены дзяржаўнай маёмасцю, і цяпер мы ў іміснуем на правах арандатараў — мы ўжо гаварылі пра гэта. Як самі бачыце, вобраз рамантычнага паэта, які падмацоўваецца і блізкім адсюль помнікам Міцкевічу, з'яўляецца вельмі выгадний рэкламнай штучкай, таму рэстаран унізе ніколі не пустуе, а мы самі, на жаль, настроены далёка не так узнёсла, як герой на тым выдатным п'едэстале.

**С. П.: — Што сёння трэба для таго, каб уступіць у Польскі пісьменніцкі саюз!**

**Г. Г.:** — Як і раней, адно патрабаванне — добра і таленавіта пісаць. Праўда, як самі бачыце, літаратура сёння ёсць занятак для людзей багатых і заможных...

---

*і больш нічым,*
*бо ты ўжо сам канец свету*
*ў самім сабе, як той крык.*
*Крыло птушкі*
*адчувае паветра,*
*як ты маўчанне,*
*якое глыбока ўкаранілася ў сэрцах.*

*Паглядзі на сцяну.*
*Паглядзі на падлогу,*
*на стол, завалены кніжнымі*
*рарытэтамі,*
*на дзверы, куды залятае ноч.*
*І толькі дрэва — сцяжына да зор*
*за вакном.*
*Але не наблізіш і далоняў да іх.*
*Адно, што магчліва:*
*трапіць праз мрою*
*ў раку нязнанага.*
*Хаця нікога няма,*
*што б абагрэў тваю думку*
*і вывеў цябе да таго,*
*што належыць табе.*

*Гэта і ёсць пачатак,*
*і нішто іншае.*

## З ЛІСЦЕМ

*Даланя ў даланю з лісцём*
*іду праз асвечаны лес.*

*Лісце падтрымоўвае мяне,*
*і я лячу,*
*але не далей,*
*чым яго палёт.*
*Самотнасць задарма*
*— радзей чым мілосць,*
*таму і каштоўней,*

*як восені цёплая пара*
*— валасы што сыдуць з маладосцю.*
*Яны радзей чым праявы*
*сардэчныя.*

*Пераклаў з польскай мовы*
*Сяргей ПАТАРАНСКІ*

**ДА 120-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА**

# ПОШУКІ ЗЛУЧЭННЯ ЎСІХ ДАРОГ

***Судакрананне з сапраўднай класікай мастацтва слова заўсёды ёсць вялікая духоўная праца, напружанасць усіх інтэлектуальных і духоўных сіл. Аднойчы Ф. Ніцшэ ўдала заўважыў, гаворачы пра цяжкасці філасофскага здумлення, што калі доўга ўглядацца ў прадонне, то яно пачынае цябе ўцягваць у сябе. Магчыма, блізкую псіхалагічна-магнетычную вартасць маюць і творы класікі, і Якуба Коласа ў тым ліку. Сакрэт неўміручасці і прыцягальнасці іх твораў не паддаецца адназначнаму, тлумачэнню і высновам, і трымаецца на шырокай сэнсавай шмат'яруснасці глыбіні падтэксту, кантэкстуальнай перасякальнасці розных каштоўнасных каардынат.***



Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч узяўшы сабе за асноўны псеўданім Якуб Колас, сфакусіраваў на гэтым усе важнейшыя праблемы і задачы свайго народа на гістарычным этапе свайго жыццёвага шляху і праецыруючы гэтыя шлях у будучыню.

З вобраза-сімвала "Коласа" выцякае наступная прапазіцыя творчай рэалізацыі пісьменніка, якую можна б было інтэпрэтаваць такім чынам — "кожны народ (чалавек) селіцца, жыве і вырастае ў той прыроднай прасторы, якая адпавядае яго ўнутранай сутнасці. Такі прыродна-пантэістычны змест вызначае вобраз "Коласа" як "вяршыню", "узды", "здабытак" той зямлі, на якой яму давялося і ўдалося ўзрасціць і сцвердзіць сябе, праз патэнцыяльную сілу "зярняці", "чалавека-народа".

Разам з тым "вобраз-сімвал" "Коласа" добра перадае для беларускага народнага менталітэту адзін з галоўных матывацыйных арыенціраў мастацтва XX стагоддзя — матыў "вызвалення душы, духу, з прыроднай матэрыі, — матэрыялу".

Вядомы рускі мастак і мастацтвазнаўца В. Кандзінскі, характарызуючы малюнкі Сезана, зазначаў: "Сезан умеў з кубка з гарбатай зрабіць адушаўлёную істоту ці дакладней прагаварыць жывую абалонку гэтага кубка. Ён валодаў талентам-дарам усюды бачыць унутраны свет". Вось такім жа дарам быў надзелены і Якуб Колас. Прыгадаем толькі такія яго радкі з прадмовы да цыкла апавяданняў-алегорый "Казкі-жыцця".

*Не ў адной толькі нашай душы*
*Зерне ёсць харраства*
*Аб ім казку складае ў цішы.*
*Колас нівы, трава.*

Вось такі звышаб'ёмны погляд на жыццё прыроднага космасу дазваляў пісьменніку шырока "пагльнаць" натуру матэрыі свету, каб здабыць вынесці адтуль імпульсы святла, цеплыні, чысціні, якія б садзейнічалі магчымасці зрабіць, аздобіць Сусвет, родную зямлю — домам, родны народ — нацыяй, роўнай сярод іншых.

*У той песні, шырокай як свет,*
*Чутны вецер і гром.*
*Дык прымі ж ты прывет*
*Свет бязмежны, мой дом.*

Прасторавыя сімвалы-вобразы "мой дом", "родны кут", "родная зямля" набывалі тую сацыяльна-ідэалістычную афарбаванасць тых асяродкаў-фантомаў, дзе б людзі маглі дастаткова скандэнсаваць энергію, каб паднясца да магчымых сябе. Падняцца няхай нават да ілюзіі, якую творца імкнуўся адлюстраваць у якасці рэальнай магчымасці, каб рушыць да вышэйшай праўды — Чалавека ў сабе. Пазіцыя прызнання безумоўнасці, каштоўнасці чалавечай асобы, яе першаснага права на гонар і годнасць, шчасце і свабоду і ёсць тая магічная квінтэсенцыя творчай скіраванасці Якуба Коласа. У большасці яго твораў пазіцыя яго герояў чуйна ***рэагавала*** на прыярытэт пошуку ўнутранага суверэнітэту, які б даваў магчымасць здабыць знешні суверэнітэт — ***людзьмі звацца.***

Аднойчы Шпенглер зрабіў такую выснову: "Ландшафт Беларусі — тоесны яе духоўнаму вобліку". Ландшафт мае адну вызначальную, на нашу думку, адметнасць, якая найбольш выразна характарызуе Беларусь, яе прыродную, гістарычную, рэлігійную, псіхалагічную адзнаку — характарыстыку менталітэту нацыі.

Справа ў тым, што Беларусь размешчаная ў тым месцы, дзе адбываецца водападзел паміж басейнамі Балтыйскага і Чорнага мораў. Рэчкі, якія выцякаюць з блізкіх мясцін малой радзімы Якуба Коласа, адны цякуць у бок Балтыкі, іншыя да Чарнамор'я. У рэлігійна-гістарычным аспекце Беларусь знаходзіцца ў геаграфічным цэнтры Еўропы і з'яўляецца стагоддзямі лініяй судакранання дзвюх асноўных хрысціянскіх канфесій — праваслаўя і каталіцызму, якія амаль тысячагоддзе імкнуцца вызначыць першаснасць у Боскім выяўленні.

Такая прыродна-геаграфічная і сацыяльна-рэлігійная дадзенасць для нашага краю ў Вялікім гістарычным полі (пры безумоўным жаданні сцвердзіцца як народ, нацыя, дзяржава) нагадвае шматгранную сітуацыю з яўрэйскай "богавызначальнай " нацыяй, якая, будучы ў атачэнні вялікіх дзяржаў-імперый — Вавілона, Егіпта, Асірыі, Рыма, — знайшла і выпрацавала духоўны арыенцір, які дапамог ёй выпучыць магутны культурны арганізацыйны субстрат волі да выяўлення свайго ліку ў Гістарычным Быцці, выхаваўшы Божага Сына. Думаецца, што творчасць Янкі Купалы, Якуба Коласа, у творча-мастацкай рэалізацыі несла ў сабе блізкую задачу "выяўленне ліку" анямела-забытага народа, які ўсё ж знайшоў магчымасць прамовіць звышзадачу — "людзьмі звацца". Выразіць яе магчыма, толькі знайшоўшы здольнасці спалучэння рознавектарных каштоўнасных арыенціраў, дзе спалучэнне давала б не матэрыяльна-прасторавае, колькаснае павелічэнне, а "коласа-зерневую" якасна-духоўную феналагію. Нам падаецца, што ў большасці твораў Я. Коласа матывы збліжэння рознабаковых аксіялагічных накірункаў і мэт знайшлі сінтэтычныя адбіткі і выяўленне праз кантраснасць, своеасаблівую антыномію — змесцу і формы. І хоць бясспрэчна тое, што форма ёсць выражэнне ўнутранага зместу, аднак форма не поўнасцю зліта са зместам, не закрываецца з імагульнай тоеснасцю, маючы сваю суверэннасць і іманентную праяўленасць.

У гэтым дачыненні нам падаецца, што форма шматлікіх твораў Я. Коласа мае так званую "сарамлівасць" (паводле А. Астроўскага). Тлумачачы сэнс назвы, вялікі рускі драматург кажа: "Ніткі развязак знаходзяцца ў руках Стваральніка, а не аўтара і яго герояў". Ці не менавіта гэтую думку транслюе ў сваім знакамітым фінале паэмы "Новая зямля" Якуб Колас:

*Прасторны шлях! Калі, калі*
*Ты закрасуеш на зямлі*
*І злучыш нашы ўсе дарогі?*

Свядомая "незавершанасць", антыфіналізм, размагнічанасць формы праявакуецца ў творчасці паэта перш за ўсё шырынёй і напорам жыццёвага патэнцыялу, які імкнецца вырвацца, разамкнуць прастору думкі-формы. Ці не адсюль частыя пераліва коласаўскіх задум-сюжэтаў у розныя мастацкія жанры, іх поліфанічная спрэчка-перагукванне.

Разам з тым, нам думаецца, тутчасткова прысутнічае і сэнсава-змястоўная устаноўка на тое, што завершанасць формы бачыцца падманам, ці нават больш за тое, прэтэнзіяй на Боскую місію. Ва ўсім гэтым найперш праглядаецца ўплыў праваслаўнай эстэтыкі. Праваслаўны чалавек успрымае свет абагульнена і паўнакроўна, так як ён найменш глядзіць на рэчыўны і духоўны свет з вузкапрагматычнай, утылітарнай пазіцыі.

З іншага боку ў змястоўна-сэнсавым, філасофска-інтэлектуальным аспекце Якуб Колас выказвае, на нашу думку, ужо іншае жаданне-імкненне. Будучы інтэлігентам у першым пакаленні, ён падзяляў асноўную інтэлігентна-асветніцкую ідэю пачатку XX стагоддзя, якую ўдала выказаў рускі філосаф М. Бярдзяеў: "У новай свядомасці інтэлігенцыя знойдзе сябе толькі на глебе сінтэзу ведаў веры... у арганічным злучэнні тэорыі і практыкі, дзе адбудзецца злучэнне "праўды ісціны" і "праўды-справядлівасці". Нам падаецца, што на беларускай глебе ў мастацкім асэнсаванні і распрацоўцы гэтай тэмы і ідэі найбольшых поспехаў дасягнуў Якуб Колас. Так, у сваім дарэвалюцыйным апавяданні "Нёманаў дар" пісьменнік зводзіць двух галоўных герояў, як ідэйных прадстаўнікоў розных сацыяльных светапоглядаў, якія глыбока ўкараніліся ў беларускую зямлю ў выглядзе жыццёва-рэлігійных арыентацый. Што прызнаць за першынство пры прыватызацыі намытага Нёманам кавалка зямлі: права дзяржавы — ці права міру, калектыву, Боскага дару? Пісьменнік вырашае канфлікт трагічнай развязкай, дзе гіне сялянін Васіль у плыні Нёмана падчас бойкі з леснікам. Агульная пазіцыя аўтара нам здаецца прыхавана ў тым, каб паяднаць варожыя бакі, знайсці шляхі кампрамісу. На жаль, у зацята-вузкім сацыяльна-бытавым сутыкненні абмежаваныя спосабы іх вырашэння, але яны вельмі неабходныя.

Падагульняючы, трэба адзначыць, што мастацкая думка Я. Коласа заўсёды памежна-завостраная і ўсеахопная. Ва ўсіх нявырашальных пытаннях нацыянальна-гістарычнага кантэксту гуманістычная вектарнасць яе палягае на каардынатах згоды, кампрамісу, экуменізму, канвергенцыі пры захаванні гонару і годнасці чалавека ў выпрацоўцы новай рэлігіі выжывання.

**Ігар ШАЛАДОНАЎ**

**Калектыў Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка смуткуе ў сувязі з раптоўнай смерцю выкладчыка, выдатнага беларускага скульптара Леаніда Рыгоравіча ДАВЫДЗЕНКІ і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

## АФІША ЛІСТАПАДА

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**

**1** – "Лебядзінае возера", П. Чайкоўскі
балету 4-х дзеях
**3 (раніца)** – "Тры парасяці", С. Кібірава
балету 2-дзеях
**3, 5** – "Шчаўкунчык", П. Чайкоўскі
балету 2-х дзеях
**5, 7 (раніца)** – "Беласнежка і сем гномаў", Б. Паўлоўскі (прэм'ера)
балету 2-х дзеях

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

**2, 6 (раніца)** – "Пітэр Пэн", А. Будзько
мюзікл у 2-х дзеях
**2** – "Севільскі цырульнік", Д.Расіні
камічная опера ў 2-х дзеях
**4 (раніца)** — "Чароўная музыка", М. Мінкоў
опера-казка ў 2-х дзеях
**4, 6** – "Яўгеній Анегін", П.Чайкоўскі
опера ў 3-х дзеях
**9** – "Аіда", Д.Вердзі

**Беларускі дзяржаўны музычны тэатр**

**2** – "Мефіста", У.Кандрусевіч
балет
**3 (раніца)** – "Трывушчы алавяны салдацік"
музычная феерыя
**3** – "Ноч у Венецыі"
карнавал

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

**1** – "К'ёджаўскія перабрэхі", К. Гальдоні
камедыя ў 2-х дзеях
**2** – "Памінальная малітва", Р. Горын
камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў Ш. Алейхема
**3** – "Ажаніцца не журыцца", Далецкія, М. Чарот
беларускія вадэвілі ў 2-х дзеях
**4** – "Кім", А. Дудараў
"крымінальная" меладрама
**9, 10, 11** – "Згублены рай", А. Курэйчык (прэм'ера)

**Малая сцэна**

**3** – "Брат мой, Сіман...", А. Казанцаў
драма ў 2-х дзеях
**4** – "Восеньская саната", І. Бергман
меладрама ў адной дзеі
**6** – "Мы і яно", паводле твораў А. Аверчанкі (прэм'ера)
"машынальная" камедыя ў адной дзеі
**8** – "Тэатр п'есы"
фантомы

**Дзяржаўны акадэмічны рускі драматычны тэатр імя М. Горкага**

**1** – "Тата, тата, бедны тата!..", А. Копіт
сучасная музычная камедыя ў 2-х дзеях
**2** – "На залатым возеры", Э. Томпсан
меладрама
**3** – "Тэрмінова патрабуецца... "самазабойца", М. Эрдман
трагікамедыя ў 2-х дзеях
**5** – "Ваўкі і авечкі", А. Астроўскі
камедыя
**6** – "Адзіны спадкаемца", Ф. Рэньяр (прэм'ера)
камедыя
**8** – "Раскіданае гняздо", Янка Купала
драматычная гісторыя

**Малая сцэна**

**8** – "Рулетка", Э. Радзінскі, Ф. Дастаеўскі
драма пакаяння з палегчаным фіналам

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

**1** – "Адэль", Я. Таганаў
гісторыя кахання ў 2-х дзеях
**2, 3** – "Стомлены д'ябал", С. Кавалёў
фантасмагорыя ў 2-х частках
**8, 9** – "Адвечная песня", Янка Купала (прэм'ера)
опера-фольк

**Дзяржаўны маладзёжны тэатр**

**1** – "Чорт выстаўлены аспом", паводле сярэднявечных французскіх эратычных фарсаў
**3** – "Страсці ў Віндзоры", У. Шэкспір (прэм'ера)
камедыя ў 2-х дзеях
**6** – "Хітрыкі Скапэна", Ж.Б.Мальер
камедыя ў 2-х дзеях
**8** – "Дзесьці далёка", А. Паграбінская
камічная драма

**Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача**

**1, 3** – "Рыцар сонца"
**5** – "Парася, якое спявае", С. Казлоў
**9** – "Залатое сардэчка", С. Казлоў

**Эксперыментальная сцэна**

**3** – "Шляхі цароў", Е. Шыферс
гульня ў лялькі для дарослых

**Дзяржаўны тэатр лялек**

**2** – "Чырвоны капялюш", Я. Шварц



**3, 5** – "Прыгоды алавянага салдаціка, пастушкі і камінара", Г.Х. Андэрсен
**6, 7** – "Чараўнік ізумруднага горада", А. Волкаў

**Тэатр-студыя кінаакцёра**

**1, 2** – "Філумена Мартурана", Э. дэ Філіпа
камедыя ў 2-х дзеях
**3, 5** – "Апошняя жанчына сеньёра Хуана"
авантурная камедыя
**6, 7** – "Мы ідзём глядзець "Чапаева", А. Данілаў
трагіфарс
**9, 8** – "Востраў нашай надзеі і любові", Г. Салоўскі
праўдзівая казка для дарослых

**Малы тэатр Ігара Забары**

**8** – "Камедыя", В. Рудаў

*На здымку: сцэна са спектакля "Тата, тата, бедны тата!..".*

**Фота А. ДЗМІТРЫЕВА**

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ**

Да 4 лістапада -- Жывапіс Мікалая Кірэева;
Выстава работ творчага аб'яднання "Верасень" (жывапіс, графіка);
"Сучасны габелен"

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ**

Да 7 лістапада -- Рэтраспектыўная выстава "Кітайская акварэль"

**МУЗЕЙ СУЧАСНАГА ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА**

Да 15 лістапада – фотавыстава "Лявон Тарасевіч. Польскі павільён на 49-й Біенале ў Венецыі".

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ**

Да 1 снежня – фотавыстава "Зачараваны Беларуссю", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Льва Дашкевіча.
Да 15 студзеня – выстава "Вікінгі на Усходзе".

**МУЗЕЙ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ**

Да 1 снежня – выстава "Покліч", прысвечаная лёсам беларускіх пісьменнікаў, рэпрэсіраваных у 20-30-ыя гады XX стагоддзя.

**ГАЛЕРЭЯ "МАСТАЦТВА"**

Да 11 лістапада -- Жывапіс Аляксандра Пяткевіча.

**"М- ГАЛЕРЭЯ" ІНСТЫТУТА ГЕТЭ Ў МІНСКУ**

Да 4 лістапада -- Графіка Рамана Сустава "Мора цішыні".

**ГАЛЕРЭЯ "СЛАВУТЫЯ МАЙСТРЫ"**

Да 8 лістапада -- жывапіс Аляксандра Гайлевіча "Песня палёў Беларусі".

*Наступны нумар "ЛіМа" выйдзе 15 лістапада 2002 г.*

## ЦЫТАТА АФІШЫ

***Беларускі драматург Андрэй КУРЭЙЧЫК:** "Жыць у атмасферы ўсеагульнага здаволення я не магу. Хаця, напісаўшы 14 п'ес, ужо мог бы нічога не пісаць, а займацца тым, чым займаюцца многія нашыя драматургі — прасоўваў бы свае п'есы па розных тэатрах. Мог бы, але не хачу. Мастацтва — гэта заўсёды канфлікт з сабой, з рэчаіснасцю, са светам. Таму я і вырашыў: раз канфлікту няма — яго трэба арганізаваць. І цалкам свядома напісаў некалькі вельмі жорсткіх крытычных артыкулаў, у якіх назваў імёны людзей, якіх лічу бяздарнымі, і спектаклі, якія лічу дрэннымі. У выніку я ледзь не стаў асобай нон-грата ў Тэатры імя Янкі Купалы, хаця працягваю любіць і цаніць гэты тэатр. І вельмі рады, што менавіта Купалаўскі першым у Мінску выпускае мой "Згублены рай". Але і хлусіць з ветлівасці ці далікатнасці не хачу".*

**"Апошняе інтэрв'ю Андрэя Курэйчыка" "БДГ", 22 кастрычніка 2002 года.**



У Купалаўскім тэатры рыхтуецца прэм'ера спектакля "Згублены рай" А. Курэйчыка ў рэжысуры Валерыя Раеўскага (на здымку).

**Фота Я. КОКТЫША**

## АНОНС

# «МЫ І ЯНО»

***6 лістапада на Малой сцэне Купалаўскага тэатра чакаецца прэм'ера спектакля "Мы і яно". Менавіта так называўся дыпломны спектакль былых студэнтаў 4-га курса спецыялізацыі "Акцёрскае мастацтва драмтэатра і кіно" Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.***

"Машынальная" камедыя ў адной дзеі пастаўлена маладым рэжысёрам Сяргеем Тарасюком паводле апавяданняў вядомага пісьменніка-гумарыста Аркадзя Аверчанкі. Для твораў гэтага пісьменніка характэрны зварот да штодзённасці, побыту чалавека, яго слабасцяў і недахопаў. Таму амаль што ў кожным з герояў яго апавяданняў мы бачым сябе альбо сваіх блізкіх ці знаёмых. На сцэне перад намі ўзнікае нашае жыццё ва ўсіх сваіх адценнях, прыправленае добрай порцыяй гумару.

Перадусім рэжысёра цікавяць адносіны паміж мужчынам і жанчынай, мужамі жонкай. Мы і яно – гэта мы і каханне, мы і недарэчнасці, якія могуць узнікаць на глебе ненатуральнасці пачуццяў, несапраўднасці перажыванняў. Аднак нягледзячы на тое, што гэтыя тэмы глыбока асэнсоўваюцца ў спектаклі, мноства камедыйных сітуацый, разнастайнасць вясёлых дыялогаў забаўляюць гледачоў на працягу ўсяго сцэнічнага дзеяння. Усё, што адбываецца на сцэне, вельмі жыццёвае і знаёмае гледачу, кожны адчувае, што менавіта яму адрасуюцца думкі, ідэі стваральнікаў спектакля (яго можна прачытаць як "Ты і яно").

Рэжысёр і малады акцёры здолелі звязаць асобныя апавяданні ў адно гарманічнае цэлае. Адна гісторыя плаўна пераходзіць у другую і дзякуючы невялікай ролі вядучага, які пры дапамозе дыялогу з гледачамі дапамагае ім зрабіцца сатворцамі спектакля.

Дыпломны спектакль выпускнікоў 2002 года (кіраўнік курса – народны артыст Беларусі Валерый Раеўскі) стаў іх візіткай на прафесійнай сцэне. Маладыя акцёры, занятыя ў спектаклі, сёлета былі залічаны ў трупу Купалаўскага.

**Валянціна ЛЯПКОВІЧ**

## ПРЭМ'ЕРА

120-годдзю з дня нараджэння вядомай рускай паэтэсы Марыны Цвятаевай была прысвечана прэм'ера монаспектакля "Пацукалоў". На Малой сцэне Рускага тэатра пад дынамічныя гукі барабана паэму Цвятаевай разыграла актрыса (і рэжысёр спектакля) Эмілія Пранскутэ, якая з дзяцінства захоплена паэзіяй гэтай паэтэсы і адчувае з ёю моцную духоўную сувязь.

**Д.Т.**




ЗАСНАВАЛЬНІК

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**

**Віктар ШНІП**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА,**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**

**Алесь ГАЎРОН — адказны сакратар,**

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**

**Уладзімір САЛАМАХА — намеснік галоўнага рэдактара**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19**



**ТЭЛЕФОНЫ:**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-8525**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8153**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-4404**
**літаратурнага жыцця — 284-4404**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-4404**
**паэзіі і прозы — 284-4404**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-8153**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-4991**
**Тэл./факс — 284-8525**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1642
Нумар падпісаны ў друк 31. 10. 2002 г. у 15.00

Рэгістрацыйнае Пасведчанне № 715

Заказ 2519

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12